

*Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!*

# Літаратура і Мастацтва

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ПЯТНІЦА, 22 снежня 1989 г. № 51 (3513) ⊙ Выходзіць з 1932 г. ⊙ Цана 10 кап.


## УНУМАРЫ:


**Выбарчы клуб «ЛіМа»**
З пошты гэтага тыдня
**2—3**

ЯКІМ БЫЦЬ ПІСЬМЕННІЦКАМУ САЮЗУ?
Гутарка з Ю. Сураўцавым
**3**

**«ВІТАЮ ЦЯБЕ, ЦЫГАНСКІ НАРОД!»**
Перабудова і міжнацыянальныя адносіны
**5, 12**

КІНО Ў ГУЛЬНІ І ПА-ЗА ГУЛЬНЁЙ
Пасля семінара ў Стайках
**10—11**

«...СОНЦА ПАСЛЯ БУРЫ»
Старонкі ўспамінаў
**14—15**


## *Прэс-служба Міністэрства культуры БССР паведамляе*

**Нядаўна створана прэс-служба Міністэрства культуры БССР. Яна павінна садзейнічаць больш цеснаму кантакту органаў культуры з арганізацыямі прафесійнага мастацтва і народнай творчасці, сродкамі масавай інфармацыі.**

**Прэс-служба ставарае «банк інфармацыі» найбольш важных і цікавых з'яў, што адбываюцца ў сістэме культуры, аналізуе творчыя здабыткі прафесійных калектываў і калектываў мастацкай самадзейнасці.**

**Як паведамілі рэдакцыі, інфармацыю пра найбольш цікавыя падзеі ў галіне культуры рэспублікі можна атрымаць па тэлефонах прэс-службы 34-36-64, 34-44-52.**

## ФЕСТЫВАЛЬ МАСТАЦКАЙ ТВОРЧАСЦІ

Наша рэспубліка першай прыме IV Фестываль самадзейнай мастацкай творчасці сацыялістычных краін, які будзе прысвечаны 45-й гадавіне вялікай Перамогі. Пачаўшы сваё шэсце з пагранічных раёнаў Беларусі, ён, пасля ўрачыстасцей у Мінску, адправіцца ў Чэхаславакію, ГДР, Польшчу. У фестывалі прымуць удзел мастацкія групы з Балгарыі, Венгрыі, В'етнама, Манголіі, ГДР, КНДР, Рэспублікі Куба, ПНР, СРР, ЧССР, СССР.

Такі фестываль упершыню пачне свой старт у Савецкім Саюзе, праходзіць ён у час, калі ў нашай краіне і краінах усходняй Еўропы адбываюцца працэсы абнаўлення сацыялістычнага жыцця, ва ўмовах значных змен палітычнага клімату ў свеце.

Пяць дзён фестывалю ў нашай рэспубліцы — з 20 па 25 красавіка — будуць адзначаны антываеннымі мітынгамі, канцэртамі і выстаўкамі работ удзельнікаў мастацкай самадзейнасці і народных умельцаў.

Цікавымі маюць быць сустрэчы ў маладзёжным лагеры ў ваколіцах Мінска, міжнародным інтэрклубе. Асноўныя ўрачыстасці ў Мінску пройдуць каля Палаца спорту. Найбольш адметныя з іх — інтэркірмаш, «горад майстроў», выступленні фальклорных і эстрадных груп. Мяркуецца паказ вырабаў народных умельцаў, майстроў нацыянальных музычных інструментаў. Сувенірную прадукцыю можна будзе тут жа набыць на аўкцыёне «Сувенір». Падрыхтоўчы камітэт прыняў рашэнне правесці міжнародны гала-канцэрт.

У апошні дзень, калі эстафета фестывалю будзе перададзена гасцям з Чэхаславакіі, у Вялікім акадэмічным тэатры оперы і балета БССР адбудзецца святочны канцэрт з удзелам фальклорных калектываў рэспублікі.

Старшыня аргкамітэта IV Фестывалю самадзейнай мастацкай творчасці сацыялістычных краін — намеснік Старшыні Савета Міністраў БССР Н. М. Мазай.

## ДА ЮБІЛЕЮ СКАРЫНЫ

Паўгода засталося да 500-гадовага юбілею з дня нараджэння Францішка Скарыны. Урачыстасці з нагоды гэтай падзеі пачнуцца ў сталіцы Беларусі, затым яны будуць праходзіць на радзіме выдатнага беларускага асветніка ў Полацку.

Менавіта тут, у Полацку, пад старшынствам намесніка Старшыні Савета Міністраў БССР, старшыні аргкамітэта па падрыхтоўцы і святкаванні 500-годдзя Францішка Скарыны Н. М. Мазай праходзіла пасяджэнне аргкамітэта.

Гутарка ішла аб падрыхтоўцы да свята, ходзе рамонтных работ на аб'ектах культуры Полацка, стварэнні экспазіцыі музея беларускага кнігавыдання. Быў абмеркаваны сцэнарый свята.

## *Надзённая цытата*

**«...культура, як і хлеб, не з'яўляецца нечым такім, што можна адсунуць на далёкі план і вярнуцца да яе тады, калі дазволіць сацыяльна-эканамічная сітуацыя. Скажу больш рэзка: нічога ў нас не будзе, ніякіх зрухаў у бок цывілізаванага грамадства і дзяржавы, калі мы не аб'явім культуру адным з прыярытэтаў нашай палітыкі... Ніякага гуманнага дэмакратычнага сацыялізму не пабудуеш без сур'ёзных укладанняў у культуру ў шырокім сэнсе слова і ў развіццё мастацтва, у прыватнасці».**

**Кірыл ЛАЎРОЎ.**

●

**«Хацеў бы спыніцца на некаторых праблемах, народжаных аварыяй у Чарнобылі. Хацелі б мы гэтага ці не, але гэта нацыянальная трагедыя... Праграма па ліквідацыі вынікаў аварыі павінна стаць асноватворным дакументам у нашай дзейнасці на пацярпеўшай тэрыторыі і ў пяцігадовым плане ісці асобным радком. Але не магу пагадзіцца з тым, што для гэтага трэба чакаць трынаццатую пяцігодку. Ёсць дзесяткі, калі хочаце — сотні пытанняў, па якіх трэба прымаць тэрміновыя меры... Аднак чым больш часу нас аддзяляе ад аварыі ў Чарнобылі, тым слабей у кабінетах дырэктыўных органаў успрымаецца душэўны боль трапіўшых у бяду».**

**Уладзімір КАШПЕРКА.**
**(З выступленняў на другім З'ездзе народных дэпутатаў СССР).**



У доме нумар 9 па вуліцы Казлова ў Мінску, дзе ў апошні час жыў народны артыст СССР Генадзь Цітовіч, адкрыта мемарыяльная дошка, аўтарам якой з'яўляецца лаўрэат Ленінскай прэміі скульптар В. Занковіч. Пра Г. Цітовіча згадналі кампазітары І. Лучанок і Ю. Семяняка, музыказнаўца Т. Варфаламеева, дачка яго Святлана Генадзьеўна.

**Цыганы... Самае старажытнае племя на Зямлі. Іх мова, іх традыцыі каранямі там, у Індыі, адкуль пайшла еўрапейская цывілізацыя. Чамусьці яны пакінулі Радзіму, сталі вандраваць па свеце. Цяпер цыганы ёсць усюды. Ёсць англійскія, ёсць іспанскія, ёсць балгарскія, ёсць беларускія. Яны жывуць сярод нас, але, дайце веры, жывуць па-свойму. Цыганы не згубілі сваіх звычак, сваіх традыцый, сваіх законаў, сваёй своеасаблівай, так бы мовіць, дзяржаўнасці.**

**Цыганы заўсёды былі і вандроўным племем, якое жыло тым, што нешта недзе перапрадавала, недзе некаму варажыла... Аселыя народы Еўропы ва ўсе часы не надта любілі гэтых вечных вандроўнікаў. Супраць цыганоў, супраць іх вандроўніцтва не раз прымаліся самыя суровыя законы. Але... Але яны працягвалі вандраваць, працягвалі жыць сваім, асаблівым, цыганскім жыццём.**

**Гэткімі ж цыганы засталіся і зараз, хоць і сталі аселымі, хоць многія з іх працуюць на дзяржаўных прадпрыемствах і ва ўстановах.**

**І аднак жа: як яны жывуць сёння, чым заклапочаны, што і як робяць, каб мець хлеб надзённы! Паспрабуем адказаць на гэта на прыкладзе мінскіх цыганоў...**

*Перабудова і міжнацыянальныя адносіны*

# ЛАЧО ДЭ ВЭС ТУМЭН, ГЭ РОМАЛЭ!

У 1926 ГОДЗЕ ў часопісе «Наш край» быў змешчаны нарыс Д. Даўгялы «Цыганы ў Беларусі». Ён быў ілюстраваны трыма фотаздымкамі. Пад імі — адзін і той жа подпіс: «Цыганскі табар каля Менску ўвосень 1925 г.» На адным фотаздымку — барадаты цыган, яго жонка — немаладая кабета з косамі, у доўгай сукенцы і шалі, іх дзеці. На другіх —быт вандроўных цыган, шатры ля стромага берага, які нагадвае той, што непадалёк ад Шэпічаў, на Серабранцы.

Значыць, цыганы працягвалі вандраваць і ў 30-ыя гады. Адносіны да такога спосабу жыцця былі неадназначныя.

Распавядае жыхар Калядзіч Міхаіл Александровіч: «Мы жылі на вуліцы Захарава. Заходняя граніца была адчынена, і нашы людзі на лета пайшлі ў Польшчу. Вяртаемся, — граніцу нечакана, без папярэджання, закрылі, трэба ісці праз прапускны пункт. А ноччу прыйшлі, забралі ўсіх, хто адзначыўся на прапускным пункце. Забралі і маіх дзядзькоў — Васіля, Ігната і Пятра Александровічаў. Мы ніколі нічога не чулі пра іх з той начы. Дзе іх магілы?.. А цётка Надзя маленькай была, не адзначылася і ацалела...»

У гады вайны многія цыгане змагаліся з нямецка-фашысцкімі захопнікамі на франтах і ў партызанах. Мінскія цыгане ганарацца, напрыклад, сваім сваяком — адміралам флоту Казлоўскім. А тыя людзі цыганскай нацыянальнасці, якія засталіся на акупіраванай фашыстамі тэрыторыі, належалі да поўнага знішчэння. Гэтаксама, як і яўрэяў, іх вывозілі ў канцлагеры, расстрэльвалі, марылі голадам, марнавалі знясільваючай працай. Цыганы Мінска памятаюць, што ў трасцянецкіх брацкіх магілах ці не большасць ахвяр — іхняе крыві.

**Я памятаю, як у 1945 годзе ішлі праз Мінск цягнікі з рэпатрыіраванымі з фашысцкіх канцлагераў цыганамі. Наша школа стаяла ля чыгункі. Між школьным дваром і чыгункай яны ставілі шатры і раскладалі вогнішча. Мяняліся цягнікі, мяняліся табары. Зямлю скоўваў мароз, з неба сыпаўся снег, а яны — абарванцы, босыя, з малымі дзецьмі ля цяпельцаў... «Як яны могуць? Мароз, а ў іх немаўляты?» — «Яны — могуць. Яны — цыганы», — адказвалі настаўнікі і адводзілі вочы. А потым заўважылі мы, што цыганы начуюць... у нашых класах. Ішлі дні, змрачнелі вясёлыя твары дарослых цыганоў, але дзеці іхнія міласціны не прасілі, яны зараблялі — пелі, танцавалі. Памятаю дзяўчынку ў спадніцы з фашысцкага сцяга. Танцуе дзяўчынка, лётаюць доўгія косы, лётаюць чорныя змяюкі свастыкі. Перароблены ў спаднічку фашысцкі сцяг яскравей лозунгаў і плакатаў гаварыў нам аб перамозе. Мы аддавалі цыганятам свае акрайчыкі хлеба (калі яны ў нас былі). «Мы вернемся дадому, будзем вучыцца, як і вы», — гаварылі нам цыганяты. І мы верылі. Нам здавалася, што ў гэтых па-асабліваму прыгожых людзей павінен быць і асаблівы, прыгожы лёс...**

Тады, у пасляваеннай Беларусі, цыганы зноў пачалі вандраваць. Але не таму, што іх змушалі мяняць месца жыхарства гены продкаў. Таму, што ў спаленай, зруйнаванай і абрабаванай дашчэнту Беларусі не хапала на ўсіх жылля, хлеба, працы.

Памятаю бледны бацькаў твар. Ён прыйшоў дадому, паклаў рукі на стол, уздыхнуў: «Сёння мяне звольнілі. За тое, што прыняў на работу цыгана. У яго дзевяць дзяцей, усе маралеткі... Ён слаўны работнік!..» І ў напятай цішыні параненай птушкай ускрыкнула маці: «Як жа мы жыць будзем?»

Між людзьмі шэптам пераносілася: «Цыганоў арыштоўваюць, імі перапоўнена турма, іх некуды вывозяць у турэмных цяплушках... Ці ж вінаваты чалавек, што нарадзіўся цыганом? Ці ж цыганы не людзі?» А ў 1956 годзе, як бы ўзаконьваючы тое, што было ўчынена ў першыя пасляваенныя гады, быў выдадзены ўказ, які абавязваў цыганоў у трохмесячны тэрмін знайсці сталае жыццё і працу. Выканаць указ было практычна немагчыма па многіх прычынах, ды лёсаў было зламана нямала. Архівы пра гэта маўчаць. Не любяць успамінаць тыя гады і самі цыганы.

Углядаюся сёння ў твары цыганоў, шукаю ў іх рысы дзяцей, з якімі пасябравала некалі. Цыганскі народ, які выжыў у старшэнныя ваенныя і цяжкія пасляваенныя гады, па-ранейшаму жыве ў Мінску, у іншых гарадах усіх абласцей нашай рэспублікі.

ДЗЯРЖАВА НЕ РАБІЛА адрозненняў паміж цыганамі і людзьмі іншых нацыянальнасцей. Гэтак жа, як усім іншым, ім давалася права на працу, адпачынак, адукацыю. І цыган павінен быў адпавядаць мадэлі «простага савецкага чалавека»: весці аселае жыццё, атрымліваць адукацыю, працаваць на прадпрыемстве, падпарадкоўвацца савецкім законам...

Ды толькі цыганы засталіся цыганамі. У тых умовах, у якія яны былі пастаўлены дзяржавай, яны пачалі жыць як бы адначасова ў дзвюх сістэмах: сістэме агульнадзяржаўных нормаў і законаў і ў сістэме сваіх цыганскіх законаў і традыцый. Жыццё па першай сістэме было навідавоку ўва ўсіх. І таму цыганы не разглядаліся як спецыфічнае згуртаванне, праблемамі людзей цыганскай нацыянальнасці не займаліся ні ў мясцовых, ні ў Вярхоўным Савеце, ні ў аддзелах Міністэрства народнай асветы ці Міністэрства культуры рэспублікі.

Сёння мінскія цыганы — аселыя. Жывуць у кватэрах новых мікрараёнаў ці ў сваіх дамах з садам, гародам, жыўнасцю. Большасць мужчын працуе на прадпрыемствах, а жанчыны часцей за ўсё маюць статус хатніх гаспадынь. Яны жывуць — «як рускія», апранаюцца — «як рускія» (рускія для цыганоў — усе «нецыганы»).

Але чым мацнейшым рабілася патрабаванне жыць «як рускія», тым мацнелі нябачныя сувязі паміж цыганамі ў іх імкненні зберагчы свае цыганскія традыцыі і законы, тым глыбей у цень, куды не дапускаліся пабочныя, адыходзіла іх жыццё «па другой сістэме».

У гэтых умовах мінскія цыганы, каб зберагчы цыганскія традыцыі, адышлі ад некаторых з іх. Калі раней табар аб'ядноўваў звычайна кроўных сваякоў, то ў Мінску ў суполку аб'ядналіся розныя табарныя сем'і. Па сутнасці, быў створаны Саюз мінскіх цыганоў, накшталт тых, што ўзнікалі ў 20-ыя гады. Яго мэтаю стала павышэнне агульнага матэрыяльнага і культурнага ўзроўню цыганоў, клопат аб іх працоўнай занятасці, зберажэнне традыцый і культуры, стварэнне агульнай касы і аказанне матэрыяльнай дапамогі тым, што жывуць у нястачы. Быў выбраны камітэт з прадстаўнікоў кожнай табарнай сям'і. Кіраўніком камітэта быў абраны цыган, якога называюць «баронам» або «барадою». У адрозненне ад традыцый, у адпаведнасці з якімі раней улада барона нагадвала неабмежаваную ўладу манарха, барон мінскіх цыганоў стаў вырашаць пытанні, якія тычыліся іх унутранага жыцця і адносін з Савецкай уладай, не асабіста, а сумесна з цыганскім камітэтам. У той час стварэнне такога саюза магло быць ацэнена як учынак антыдзяржаўны, а яго кіраўнік падвергнуты сур'ёзным рэпрэсіям. Таму цыганскі барон быў вымушаны заставацца ў ценю. Аб тым, што ён існуе рэальна, ведалі далёка не ва ўсіх савецкіх органах. Зрэшты, хто ён, дзе жыве, ведаюць і далёка не ўсе цыганы. Пакуль саюз цыганоў не прызнаны ўладай, барон не спяшаецца паказвацца на вочы шырокай грамадскасці.

ТРАДЫЦЫІ цыганскага народа ляжаць у аснове крытэрыяў, па якіх прымаюцца рашэнні. Камітэт назірае за бытам цыганоў. Напрыклад, малады цыган пачаў піць, супрацоўнікі міліцыі хацелі адправіць яго ў ЛПП. Але сярод цыганоў алкагалізм асуджаецца, змяшчэнне цыгана ў ЛПП зняславіла б не толькі яго дзяцей, але і ўнукаў. Выклікалі выпіваку на суд камітэта і папярэдзілі, што калі не кіне піць, ніводзін цыган яго ў свой дом не пусціць — страшнае для цыгана пакаранне. Больш ніхто гэтага маладога хлопца п'яным не бачыў.

**На табарным камітэце вырашаюцца не толькі бытавыя пытанні.**

**Гавораць, неяк рэкецiры запатрабавалі ад цыганоў, якія займаюцца рэалізацыяй прадукцыі кааператываў, выкуп за права гандляваць. Звяртацца ў міліцыю ў цыганоў не прынята. Як быць? Сабралі палову сумы (сабралі б і больш, але рэкецiры «кепска сябе паводзілі»). Прынеслі грошы ў прызначаны час, але прыйшлі на сустрэчу разам з жанчынамі, дзецьмі некалькіх табараў. І калі рэкецiры абурыліся ўдвая меншым выкупам, маладыя цыганы «трохі іх адлупцавалі». Рэкецірам давялося адступіць. Пакуль — адступіць...**

**Цыганскае згуртаванне мацуецца і тым, што ў руках выбарнага камітэта знаходзіцца агульная каса табара. Пытаюся ў кіраўніка камітэта, на якія сродкі можа жыць, напрыклад, Алдана С., маці сямярых дзяцей, калі ні яна сама, ні дзеці не працуюць?**

**— А вы дома ў яе былі?**

**— Не.**

**— Мы ведаем, як яна жыве. Яна ні ў чым не мае патрэбы. Мы ведаем усіх, каму патрэбна дапамога, і дапамагаем, калі ў гэтым ёсць неабходнасць.**

Аб памерах табарнай касы можна меркаваць па такім прыкладзе. Вясной 1989 года дачка цыганскага барона выходзіла замуж. Вяселле гулялі ўсім табарам. Падарункаў надарылі на суму амаль што казачную... Але гэтыя грошы не толькі для маладых і іх бацькоў. Гэта агульныя грошы агромністай табарнай сям'і, гэта, па старажытнай традыцыі, дэманстрацыя свайго багацця перад іншымі табарнымі і не табарнымі сем'ямі.

СВАЕ ЖЫЦЦЁВЫЯ ЦЯЖКАСЦІ цыганы імкнуцца вырашаць у сваім асяроддзі, самі. Праблемы пачынаюцца там і тады, калі агульна дзяржаўныя нормы і законы не супадаюць з цыганскімі. А гэта здараецца зусім не рэдка. З такімі праблемамі цыган сустракаецца яшчэ ў дзяцінстве. Дзеці ў табары — гэта найвялікшая каштоўнасць. Сярод цыганак няма маці-адмоўніц, няма цыганят і ў дзіцячых дамах. Калі дзіця аказваецца сіратой, яго выгадуе любая сям'я ў табары. Не аддаюць цыганы сваіх дзяцей і ў яслі, дзіцячыя сады. І не толькі таму, што ўладкаваць там дзяцей мацяркам — хатнім гаспадыням — не проста. Найперш таму, што з пялёнак пачынаецца выхаванне дзіця ў традыцыях табара. Ці зможа ў кроў і плоць цыгана ўвайсці закон падпарадкавання старэйшаму ў табары, калі ў дзяцінстве прыме ён за важака нейкую чужую выхавацельку дзіцячага сада? Не, цыганка не адпусціць свайго малога далей сваёй спадніцы.

З маленства пачынаецца навучанне дзяцей асноўнаму рамяству. Раней, у вандроўным табары, хлопчык ледзь навучыўшыся хадзіць, вучыўся спраўляцца з канём і ўсяму таму, што звязана з коньмі і вандроўным жыццём. Ва ўмовах аселасці навучанне хлопчыкаў рамёствам — справа цяжкаватая. Але затое пад самай пільнай увагай вырастаюць дзяўчынкі. Жанчына ў табары цалкам падначалена мужчыне, яна не асмельваецца пярэчыць яму, рабіць што-небудзь супраць яго волі. Яна звязана мноствам звычаяў. Цыганка, напрыклад, не мае права паявіцца ў кампаніі двух мужчын з непакрытай галавой, не можа прайсці паміж двума немаладымі мужчынамі — павінна абысці іх. Жанчына і зараз застаецца асноўным здабытчыкам сродкаў існавання для цыганскай сям'і Сад, гарод, карова і свінні, прыгляд за домам і сям'ёй — усё гэта на плячах жонкі і дачок; ні мужык, ні сыны па традыцыі гэтымі клопатамі не займаюцца. Як і ў старадаўнія часы, для многіх сем'яў адным з асноўных спосабаў здабычы грошай застаецца варажба. А варажба — прэрагатыва жанчыны. І таму дзяўчаткі з маленства вучацца па знешнасці, інтанацыі, выпадковых словах і жэстах, адказах на іх «тэставыя» пытанні вызначаць сацыяльны стан, характар, клопаты чалавека, вучацца майстэрству імгненна адчуць яго душэўны стан, знайсці спосаб зняць стрэс. «Інструментам» у варажбе часцей за ўсё служаць карты. Але яны пры раскладцы даюць адно з многіх мільёнаў спалучэнняў, і, каб яго прачытаць, дзяўчаткі вучацца з ранняга ўзросту.

**У 6—7 гадоў дзеці мінскіх цыганоў ідуць у першы клас. «Настаўнікі ставяцца да нашых дзетак гэтаксама, як і да дзяцей рускіх, беларусаў — адрозненняў не робяць», — кажуць цыганы. Настаўнікі гавораць пра дзяцей цыганоў з асаблівай сімпатыяй: «Яны здольныя, таленавітыя, дысцыплінаваныя, акуратныя, старанныя... І такія прыгожыя! А як малююць, спяваюць, танцуюць! Лідзіруюць у самадзейнасці...» Але захапленне настаўнікаў адносіцца, як правіла, да дзяцей 1—4 класаў. Прыкладна з 5-га класа пачынаюцца цяжкасці: большая частка дзяцей прапускаюць заняткі, кепска вучацца. Чаму рэзка падае паспяховасць большай часткі цыганскіх дзяцей, змяняюцца да горшага іх адносіны да школы? Адказы розныя. Падлеткі гаварылі, што, пачынаючы з 5-га класа, ім цяжэй асвойваць школьную праграму. Надзя І., 15 гадоў: «У першых класах я вучылася добра. Настаўніца задае пытанне, я прадумаю адказ па-цыганску, а адкажу па-руску. А ў 5-м класе я раптам перастала разумець тое, пра што гаварылася на ўроках. Слухаю настаўніцу, а не разумею нічога, быццам гаворыць яна не па-руску, а на нейкай замежнай мове. Іншым дзецям дома бацькі дапамагаюць, нават рэпетытары, а мая мама не можа памагчы, нават чытае кепска».**

Па ўсім відаць, цяжкасці Надзі І. і іншых дзяцей выклікаіы розніцай узроўняў агульнай культуры сям'і і тым, які патрабуецца для засваення школьных праграм. Хатняе выхаванне аказваецца дастатковым для засваення канкрэтных, вобразных, эмацыянальна ўспрымаемых паняццяў. Калі ж веды будуюцца на паняццях, якія не засвоены ў мове і вопыце бацькоў дзіцяці, узнікае бар'ер паміж яго магчымасцямі і ведамі. Невыпадкова настаўнікі адзначаюць, што намнога лепш паспяховасць дзяцей тых цыганоў, што працуюць, напрыклад, на заводзе.

Далёка не ўсіх дзяцей хвалюе іх нізкая паспяховасць. «Нам, — тлумачаць яны, — не патрэбны веды, якія дае школа. Мы не збіраемся вучыцца ў інстытутах. У нас будзе іншае, чым у «рускіх», жыццё».

Справа ў тым, што ў дзяцей цыганоў, паўднёвага па крыві народа, рана пачынаецца перыяд палавога выспявання, і дзяўчаткі ў 14—15 гадоў становяцца мацяркамі. Па традыцыі дзяўчаты табара выходзяць замуж толькі за чалавека сваёй нацыянальнасці, іх мужыкамі становяцца юнакі таго ж узросту ці ледзь старэйшыя.

**У 5-м класе школы № 153, што ў Серабранцы, вучыцца Валодзя Ц., высокі, прыгожы юнак, «з добрымі разумовымі здольнасцямі». А як ён танцуе, спявае!.. Аднойчы знік ён з дому. Маці кінулася шукаць яго па Мінску. У адзін дом зайшла: «Валодзьку майго не сустракалі?» А тыя ў адказ: «Не бачылі. Але дачка наша таксама знікла», — «Дык, можа, мой Валодзька тваю дачку выкраў?» У адказ замахалі рукамі, загаласілі: «Быць таго не можа, каб наша Рада з тваім сынам збегла». Пайшла маці ні з чым. А праз тры дні вяртаецца дадому Валодзя з маладой жонкай і прасцінай — доказам таго, што стала яго жонка жанчынай, — такі звычай. Што рабіць будзеш? Падалі заяву ў райвыканком — там, хоць паводле закона ўступаць у шлюб належыць не раней 18-ці, шлюбу цыганскіх дзяцей не перашкаджаюць. Вяселле вырашылі згуляць пазней. Але ў апошнія дні перад вяселлем зганьбіў юны Рамза гонар цыгана шлюбнай нявернасцю. Не вытрымала ганьбы Рада: сабрала рэчы і пайшла да сваіх бацькоў. Жонка вярнулася ў 8-мы клас, а мужык — у 5-ы (ён пяты год у пятым класе). «Баба з воза — каню лягчэй», — пракаменціравала «свякруха».**

**(Працяг на стар. 12).**

* Вітаю цябе, цыганскі народ!

# ГЭТЫ «НЕФАРМАЛ» ЯН ЧАЧОТ

**Ян Чачот. Навагрaдскі замак. Творы. Мінск, «Мастацкая літаратура», 1989.**

ГІСТОРЫЯ мае ўласцівасць паўтарацца, знаходзіць цікавыя і нечаканыя аналогіі ў іншым часе,— што асабліва важна сёння, калі менавіта памяць, абуджаная воля гістарычнага самапазнання можа стаць той сілай, якая дапаможа выстаяць, нанова адрадзіцца цэламу народу.

Вось і гісторыя Яна Чачота, удзельніка славутага філамацкага руху, паэта і фалькларыста...

Спакуслiва залічыць нашага героя да таго грамадскага руху, які атрымаў сёння назву нефармальнага. Сапраўды, кім жа яшчэ мог быць Ян Чачот, які на пачатку мінулага стагоддзя разам з Адамам Міцкевічам і Тамашом Занам кіраваў «нефармальнай» арганізацыяй студэнцкай моладзі, мэтай якой было дасягненне «грамадскага дабра»?..

Гісторыя філамацкага руху добра даследавана палякамі, але нам застаецца, можа, самае істотнае: вярнуць сабе ўсё, што стваралася на нашай зямлі, на навагрaдскіх ці віленскіх прасторах.

Чытаючы артыкулы і тэзісы прамоў Чачота на філамацкіх сходах,— а цяпер, з выхадам Чачотавай спадчыны, у кожнага з'явілася такая магчымасць, — бачыш перад сабой па-грамадзянску мужнага і высакароднага чалавека, для якога вялікая патрыятычная ідэя была адначасова ідэяй высокамаральнай.

**«Мала гаварыць пра станоўчыя якасці чалавека і вучыць ім; трэба самому даваць ва ўсім прыклад у паводзінах. Бо ніхто так не схіляе да ліхога людскія сэрцы і розум, як ліхія ўчынкі тых, хто воляй лёсу заклiканы вучыць просты люд і паляпшаць разбэшчаны свет, хто на словах прапаведуе дабрачыннасць, а ў жыцці заграз у распусце».**

**«Не могуць быць добрымі грамадзяне там, дзе кепскі ўрад, і не можа быць кепскага ўрада там, дзе большасць — добрыя грамадзяне».**

**«Найлепшы ўрад будзе там, дзе ўсё робіцца згодна з пажаданнем народа, а не з волі, капрызу і сілы аднаго».**

У характарыстыцы віленскага культурнага асяроддзя і грамадскай атмасферы пачатку XIX стагоддзя, дадзенай Чачотам у яго публіцыстычных матэрыялах і перапісцы з сябрамі, можна ўбачыць рысы любога грамадства, прагрэс якога ў значнай ступені залежыць ад вырашэння канфлікту паміж кансерватыўнай сістэмай улады і маладой сілай духоўнага абнаўлення.

Па асобных фактах, па ўспамінах і пісьмах сучаснікаў можна меркаваць, якімі прыцягальнымі былі для тагачаснай моладзі ідэі філаматаў (літаральна: аматараў навук), сам духоўны воблік гэтых людзей і іх грамадзянскі тэмперамент. Для віленскай студэнцкай моладзі, пераважна апалячанай беларускай шляхты, з дзейнасцю філаматаў было звязана абуджэнне патрыятычнай свядомасці, спазнанне сваёй гістарычнай айчыны, хоць да канца ёй прайсці гэты шлях нацыянальнага самаўсведамлення яшчэ не было суджана (рэдкі факт з эпісталярнай спадчыны: як нейкае прасвятленне, прыходзіць да Чачота ўжо ва ўральскай ссылцы ўсведамленне сваёй няпольскасці): «Цяпер *арэнбургская лінія*, можна сказаць, запруджана палякамі (так нас называюць тут і за такіх прымаюць)». «За такіх *прымаюць*»— зусім не тое, што «такія мы ёсць».

Вывучэнне гісторыі, мовы і культуры роднага краю, якое было часткай праграмы філаматаў, стымулявала ў кожным пачуццё сапраўднай грамадзянскасці, як яе разумеў Чачот (дбаць «*пра шчасце*, асвету і славу краю», «прысвяціць яму самога сябе, аддаць яму ўсе здольнасці, сілы і маёмасць»). Суровы лёс, які кінуў Чачота ў царскую турму, павёў у ссылку, але затым усё ж вярнуў на радзіму дзеля завяршэння высакароднай асветніцкай місіі, пацвердзіў шчырасць слоў і заклікаў гэтага кіраўніка філаматаў.

Гісторыя паўтараецца. Многае з таго, што было пройдзена Чачотам у філамацкія гады, сёння ўзнаўляецца такімі ж маладымі хлопцамі ў іншых згуртаваннях. Тое ж вяртанне амаль страчанай бацькамі айчыны, вяртанне праз песню народа, праз гісторыю, праз Статут Вялікага княства Літоўскага, які ажно праз 400 год нарэшце знайшоў нас. Чытаем у Чачота: «Вечар наш закончыўся тым, што мы спявалі 25 артыкул 4 раздзела Статута В. княства Літоўскага...» (з ліста да філамата Юзафа Яжоўскага, 1820 год, Вільня). Або яшчэ: «Чым больш надаю яму значэння, чым болей разумею, што ён будзе крыніцай маёй долі... тым робіцца ён прывабнейшым... З ім драмлю, з ім сплю, яго аднаго толькі і трымаюся, яму прысвячаю ўвесь свой вольны час... (да філамата Ануфрыя Петрашкевіча, 1820 год, Вільня).

Ёсць у гэтых перазовах стагоддзяў (ад Статута — да Чачота — і да нашага часу), акрамя пазітыўнага зместу гістарычнай пераемнасці, і горкі сэнс нашай духоўнай бязладнасці і гістарычнай неўладкаванасці: як часта даводзілася нам у сваёй гісторыі пачынаць спачатку, пачынаць на затаптаным, выбітым полі нацыянальна-гістарычнага самаўсведамлення!..

Галоўнае, што ўдалося здзейсніць Чачоту,— узняцца розумам і сэрцам да **неабходнасці беларускага слова**. У гэтым ён апярэджваў сваіх славутых сучаснікаў, узгадаваных, як і ён сам, на беларускім фальклоры, які быў прынесены імі ў дар польскай культуры. Праўда, ці не самы шчодры беларуска-песенны дар ахвяраваў польскай культуры менавіта Чачот, калі мець на ўвазе яго шматтомнае выданне беларускага фальклору, разлічанае на польскамоўнага чытача. Праўда і тое, што Чачот не верыў у літаратурную перспектыву беларускай мовы, або «крывіцкага дыялекту»: «трэба сумнявацца, каб... стаў пісьмовым і развіваўся самастойна». Але аб'ектыўна не хто іншы з філамацкага асяроддзя, а Чачот станавіўся пачынальнікам новай беларускай літаратуры.

Творчы шлях Яна Чачота досыць дакладна адлюстроўвае этапы яго грамадзянскага ўзмужнення.

**Гэй вы, хлопцы,**
***Гэй, малойцы!***
**Добрых цнот сябры,**
**З крыўдай змагары!**
**Кожны з нас айчыне**
**Паслужыць павінен,**
**Свету, добрым людзям —**
**Славу так здабудзем!**
**(Пераклад з польскай).**

Вядомыя нам нешматлікія беларускія эквіваленты філамацкай паэзіі Чачота паэтычна менш выразныя, уласна эстэтычнае значэнне іх невялікае, але як факт гісторыі нашай літаратуры на этапе выпрацоўкі яе нацыянальнай эстэтычнай асновы ў новы час яны пераважваюць дзесяткі паэтычна зграбных іншамоўных твораў.

Аднак жа падзяляць творчасць Чачота на «нашу» і «польскую», гэтаксама як і спадчыну ўсіх беларуска-польскіх пісьменнікаў, занятак мала ўдзячны. Двухмоўнасць у абставінах XIX стагоддзя, асабліва яго першай паловы, была натуральнай формай існавання культуры і менавіта культуры Беларусі, г. зн. айчыннага краю Чачота. Польскія і беларускія вершы паэта можна разглядаць як два бакі адной і той жа з'явы, і якраз творчасць перыяду 30—40-х гадоў, або вяртання з ссылкі, гэта добра выяўляе.

Урэшце сэрца ў паэта было адно. І з усімі «найпрыхільнейшымі» пачуццямі яно было аддадзена «люду добраму лагоднаму, працавітаму, пачцівому», як характарызаваў Чачот свой народ, падкрэсліваючы роднасць з ім: «нашы сяляне» («З імі мы можам быць шчаслівыя. Удзяляючы ім за працу іх рук працы нашага розуму і асветы, мы можам памножыць усеагульнае дабро»). У вядомым вершы «Да мілых мужычкоў» Чачот пісаў па-беларуску:

**І мне бог на свеце даў**
**Гора гараваці,**
**Штобы лепш я вас любіў**
**І ўмеў спагадаці.**

А ў польскім вершы «Вясковыя ўцехі» паэт выяўляў тую ж сардэчнасць і спагаднасць, звяртаючыся да вясковых дзяцей:

**Падрастай, народ маленькі,**
**Гаспадынькі, аратаі,**
**Адарыць мне вас няма чым—**
**Шчырым сэрцам адараю.**

Параўноўваючы беларускія і польскія вершы Чачота, можна заўважыць не толькі агульнасць ідэйнага зместу, але і блізкасць эмацыянальна-вобразнага ладу, падабенства паэтыкі, на якую ў абедзвюх моўных сферах вялікі ўплыў аказала паэтыка народнай песні. Гэтая акалічнасць дапамагае перакладчыку пры перастварэнні польскага твора па-беларуску. І яна ж можа стаць перашкодай для дакладнага перакладу ўзораў іншага стылю.

Большасць перакладаў у кнізе «Навагрaдскі замак» на добрым, якасным узроўні пераствараюць арыгінальныя тэксты Чачота. Прывядзём для прыкладу верш «Што старыя за вар'яты!», вельмі папулярны ў філамацкім асяроддзі: яго спявалі на імянінах, на маёўках у ваколіцах Вільні.

**Што старыя за вар'яты:**
**Мелюць без прычыны,**
**Быццам час свой марна трацім**
**Мы каля дзяўчыны.**

# «АБ'ЕКТЫЎНЫ ПРАЦЭС»?

**Круглоў А. Развіццё атэізму на Беларусі (1917—1987 гг.). На рускай мове. Мінск, «Беларусь», 1989.**

АДРАЗУ мушу сказаць, што, чытаючы кнігу Анатоля Круглова, я адчуваў няёмкасць за аўтара. Замоўчванне адных фактаў, паўпраўда пра другія, падмена паняццяў, некампетэнтнасць у некаторых пытаннях... Атэіст, А. Круглоў мае права пісаць, што рэлігія — зло, опіум і г. д., што царква — інстытут рэакцыйны, але сістэма доказаў павінна грунтавацца на шчырых фактах. Сістэма доказаў павінна мець сваёю базаю *дакладныя паняцці, бо адна справа—вера ў Бога, іншая —клерыкалізм, адна — атэізм, другая — антыклерыкалізм. Сістэма доказаў для таго і існуе*, каб бачыць прадмет гаворкі ва ўсім багацці непасрэдных і апасродкаваных сувязяў. Атэістычны светапогляд не дае вучонаму права апрыёры абвяшчаць погляды ідэйных апанентаў няправільнымі, шкоднымі, варожымі і г. д.

**Вось А. Круглоў цытуе словы папы рымскага Яна Паўла II: «За вайну нясуць адказнасць не толькі тыя, хто непасрэдна яе раздзьмухвае, але ў роўнай ступені тыя, хто не робіць усяго, што ў іх сілах, каб яе папярэдзіць». Словы гэтыя прагучалі ў Асвенціме. Папа гаварыў пра адказнасць маральную, адказнасць перад Богам. І мы не можам не згадзіцца з рымскім пантыфікам. Другая сусветная вайна на сумленні не толькі Гітлера: Чэмберлен, Даладзье, Рузвельт і Сталін маглі спыніць яго. Але што піша А. Круглоў? «Тут праглядаецца перш за ўсё спроба ўскласці роўную адказнасць на агрэсара і яго ахвяру; на падпальшчыкаў вайны і барацьбітоў за мір, а ў канчатковым выніку на капіталістычныя краіны і сацыялістычныя».**

**Па-першае, адзначым, што рымскі першасвятар казаў аб роўнай адказнасці не агрэсара і ахвяры, а ПАТЭНЦЫЯЛЬНАГА агрэсара і ПАТЭНЦЫЯЛЬНЫХ ахвяр агрэсіі. Адбылася элементарная падмена паняццяў. Здзейсніў яе аўтар атэістычнай кніжачкі К. Койта, а А. Круглоў, разбіраючы гэтую публікацыю, не заўважыў ці то не схацеў заўважыць, што Яну Паўлу II прыпісваецца тое, чаго ён не казаў.**

**Далей. Аб роўнай адказнасці краін сацыялістычных і капіталістычных. Для А. Круглова і К. Койты бясспрэчным з'яўляецца тэзіс, што сацыялістычныя краіны не могуць спрычыніцца да вайны, да агрэсіі. І гэта напісана пасля падзей на востраве Даманскім, пасля кітайска - в'етнамскага ўзброенага канфлікту. Ці Кітай — капіталістычная краіна? А другая сусветная вайна? Ці не ляжыць віна за яе пачатак і на Ўрадзе СССР? Могуць сказаць: бач, якія смелыя!.. Адкажу: сур'ёзныя вучоныя, удумлівыя людзі ведалі пра віну Сталіна і Молатава і да перабудовы. Кніга ж А. Круглова выйшла сёлета.**

Я так падрабязна разглядваю паасобныя сюжэты ў кнізе А. Круглова таму, што ў іх, як у кроплі вады, адбіваюцца ўсе заганы нашага грамадазнаўства нядаўняга часу. На жаль, гэткіх сюжэтаў вялікае мноства. Вось адзін з іх.

А. Круглоў разбірае гісторыю Беларускай хрысціянскай дэмакратыі. Ён піша: «Пра палітычную скіраванасць БХД сведчыць катэгарычная адмова яе ЦК супрацоўнічаць з КПЗБ і весці супольную барацьбу супраць фашызму».

Удумаемся. З цытаты вынікае, што БХД не хацела весці барацьбу супраць фашызму супольна з камуністамі, але сама па сабе партыя — і гэта, зноў-такі, вынікае з цытаты — была антыфашысцкай. Чаму ж яна не схацела супрацоўнічаць з КПЗБ? На гэтае пытанне А. Круглоў адказу не дае. Справа не толькі ў тым, што хадэкі мелі адмысловы светапогляд. Справа ў іншым. Народны антыфашысцкі фронт камуністы хацелі стварыць — пасля адпаведнае пастановы VII кангрэса Камінтэрна — у другой палове 30-х гадоў. Да гэтага часу яны паспелі страціць давер да сябе і з боку левых заходнебеларускіх дзеячаў. Віною таму — рэпрэсіі ў СССР і БССР. Калектывізацыя, арышты і высылкі 1929 — 1931, 1933—1934 гг. былі ўхвалены і падтрыманы Кампартыяй Заходняй Беларусі. Яна апраўдвала палітыку Сталіна, арышты сваіх учарашніх сяброў і саюзнікаў: Дварчаніна, Рак-Міхайлоўскага, Бурсевіча, Мятлы, Гаўрылюка, Валошына — відных дзеячаў Беларускай сялянска - работніцкай грамады і «Змагання», якія выехалі на ўсход з-за рэпрэсій польскіх улад. І вось гэтая партыя працягвала руку хрысціянскім дэмакратам...

**Застаючыся партыяй антыфашысцкай, БХД не схацела змагацца супраць фашызму ў адным фронце з КПЗБ. Але тут яшчэ адно пытанне: супраць якога фашызму трэба было змагацца? Ці быў у міжваеннай Польшчы фашызм? Паводле камуністаў, сацыял- і нацыянал - фашыстамі былі ўсе, хто не падзяляў іхнія погляды, у тым ліку і сацыял-дэмакраты (А. Луцкевіч, у *прыватнасці*). Што ж тут казаць аб рэжыме Ю. Пілсудскага? Мяркую, А. Круглову трэба было б разабрацца ў гэтым. Пры пільным разглядзе пытання ён, мусіць, прыйшоў бы да высновы, што ў міжваеннай Польшчы з 1926 года быў нават не фашысцкі, не таталітарны, а аўтарытарны рэжым. І пытанне стаяла так: дыктатура ці дэмакратыя? Камуністы ж, ствараючы Грамаду, ставілі мэтаю барацьбу за сацыялізм. За сацыялізм у сталінскім яго разуменні яны хацелі змагацца і ў Народным фронце.**

**У тым, што ідэя Народнага фронту ў Заходняй Беларусі не *рэалізавалася*, *трэба* вінаваціць перш-наперш сталінізм.**

**А. Круглоў на 366-ці старонках свае кнігі нідзе не згадаў *вялікага атэіста* І. В. Сталіна. Апісваючы поспехі антырэлігійнай барацьбы ў БССР у 1930—1931 гг., калі «было зачынена і пераабсталявана» 573 царквы з 1013, 29 касцёлаў з 111, 366 сінагог з 547, аўтар між іншым заўважае: «Відавочна, што ў гады калектывізацыі побач з АСОБНЫМІ (тут і далей падкрэслена мною. — А. С.) перагібамі ў гэтым магутным руху дапускаліся ВЫПАДКІ адміністравання і ў дачыненні да закрыцця малітоўных памяшканняў. МАБЫЦЬ, цяжка ўявіць сабе, што за адзін год адбыўся такі круты пераварот у свядомасці, які прывёў да закрыцця цэркваў, сінагог, касцёлаў і малітоўных дамоў сектантаў. Аднак пры ўсім гэтым дадзеныя лічбы сведчаць пра вялікі спад рэлігійнасці працоўных і пра масавы ход іх на атэістычныя пазіцыі».**

Тут я вымушаны паставіць пытанні рубам. Ці ведае дацэнт А. Круглоў пра атэістычную пяцігодку? Ці ведае, што ў перапіс насельніцтва СССР быў — насуперак закону — уключаны пункт пра адносіны да рэлігіі? Ці ведае А. Круглоў вынікі гэтага перапісу? А вынікі такія, што нават і пасля атэістычнай пяцігодкі амаль палавіна грамадзян у другой палове 30-х гг. прызналіся, што яны вызнаюць Хрыста, законы Майсея і вучэнне Magamета. А колькі людзей збаяліся рэпрэсій?

Не было пералому ў свядомасці і «вялікага спаду» — быў вялікі тэрор, пры дапамозе якога замест хрысціянскага культу Богачалавека навязвалі культ чалавекабога. (Барыс Мажаеў у рамане «Мужыкі і бабы» паказвае, як зачынялі царкву, як у 1929 годзе камсамольцы зрывалі святкаванне Раства Хрыстовага, бо яно амаль супадала з 50-годдзем Сталіна. Замест Каляд — юбілей таварыша Сталіна! (Вучоны павінен ведаць гэта. Вучоны павінен ведаць і тое, што заканадаўства 1929 года істотна супярэчыла дэкрэту аб аддзяленні царквы ад дзяржавы і школы ад царквы. Забаранялася дабрачынная дзейнасць, святары не маглі спавядаць і сабораваць вязняў і хворых у шпіталях. (Зноў адсылаю да літаратуры. У рамане Васіля Бялова «Год вялікага пералому» святары, якія разам з сялянамі трапілі ў вязніцу, выконваюць свой абавязак пад пагрозай смерці).

Замест таго, каб аб'ектыўна прааналізаваць заканадаўства 1929 года, А. Круглоў піша, што «прынцыпы ленінскага дэкрэта *былі* ўвасоблены ў канстытуцыях нашай краіны. Замацаваны яны і ў дзеючай цяпер Канстытуцыі (1977 г.), а таксама ў канстытуцыях саюзных рэспублік, уключаючы і Беларусь». Але наступны абзац пэўным чынам абвяргае гэтае выказванне: «Усе гэтыя дакументы адыгралі важную ролю ў адыходзе працоўных ад рэлігіі, у ажыццяўленні сапраўднай свабоды сумлення

**І ўсё пхнуць нас да работы,**
**Хоць таго не знаюць,**
**Што да працы я ахвоты**
**Без дзяўчат не маю!**

**З любай стрэнуся, бывае,**
**Прыгарну к сабе я,**
**Сэрца радасцю палае,**
**Галава яснее.**

**Жыць тады, сябры, ахвота,**
**Хораша наўкола,**
**Мігам робіцца работа**
**З песняю вясёлай!**

**Дык мяліць ж без прычыны**
**Вы, старыя людзі —**
**Вас паслухаем тады мы,**
**Як дзядамі будзем!**

Перакладчык імкнецца быць дакладным і ва ўзнаўленні па-беларуску вядомых рамантычных балад Чачота «Бекеш», «Наваградскі замак», «Калдычэўскі шчупак», «Узногі», «Свіцязь» і іншых, захоўваючы і тыя недахопы арыгінала, якія сам адзначае ў каментарыях: «і сляды паспешлівасці, і пэўную расцягнутасць, шматслоўе, і залішняе маралізатарства».

Ёсць, аднак, прыклады адвольнага перастварэння польскага арыгінала. У каментарыях да кнігі Чачотавай спадчыны яе ўкладальнік і перакладчык К. Цвірка пазначае, што два творы паэта («Зязюлька» і «Прыляцелі сакалікі»), пакладзеныя на музыку С. Манюшкам, узяты для перакладу з фальклорнага зборніка Я. Чачота «Piosenki wieśniacze z nad Niemna i Dźwiny» (Wilno, 1839). Аднак першага твора ў названым зборніку няма: там ёсць дзве самастойныя, хоць і аднатыпныя песні пад нумарамі XXXIII і XXXIV. Калі кантамінацыя тэкстаў належыць С. Манюшку, то на яго і трэба спасылацца, а не на зборнік Чачота, інакш паўстае пытанне пра відавочную неадпаведнасць перaклада арыгіналу.

У выпадку з песенным тэкстам «Прыляцелі сакалікі» пры перакладзе адбылася значная мастацкая трансфармацыя арыгінала.

Песня «Sokolowie przyletali», змешчаная ў фальклорным зборніку Чачота, уяўляе сабой пераклад беларускай вясельнай песні, прычым пераклад вельмі дакладны, як можна меркаваць па тэксту, у якім дакладна захаваны асаблівасці народнапесеннай паэтыкі. Пераклад К. Цвіркі досыць прыблізна ўзнаўляе паэтычную структуру Чачотавай песні: у ім апушчаны характэрныя паўторы, парушана традыцыйная сінтаксічная будова.

Але трэба мець на ўвазе складанасць сітуацыі, у якой апынуўся перакладчык. Дакладнае ўзнаўленне па-беларуску Чачотаўскага тэксту было б раўназначна вяртанню да фальклорнага першаўзору, якім карыстаўся Чачот. Такім чынам, чытач убачыў бы перад сабой толькі народную песню, прыпісаную паэту.

Цікавая акалічнасць: адыходзячы ад арыгінала, К Цвірка пайшоў менавіта шляхам Чачота-перакладчыка. Перакладаючы беларускія народныя песні на польскую мову для свайго шматтомнага выдання «Сялянскія песенькі з-над Нёмана і Дзвіны», Чачот міжволі або свядома «аблітаратурыў» фальклорныя ўзоры. Як слушна сцвярджае У. Мархель, ён спалучыў «сэнсава-адпаведнае ўзнаўленне вуснапаэтычнага твора з яго рытміка-інтанацыйнай мадэрнізацыяй. У сваім артыкуле пра «Сялянскія песенькі...» Я. Чачота («Весці Акадэміі навук БССР». Серыя грамадскіх навук. 1988. № 6), даследчык паказвае, што «нават у тых перакладах, дзе змест арыгінала перадаваўся беражліва, з пэўнай лексічнай адпаведнасцю, з адэкватнасцю асобных выяўленчых сродкаў, паэт або пераўтвараў рытмічны малюнак арыгінала, або ўзнаўляў яго на ўзроўні сінтэзу народнапесеннага і метрычнага вершаскладання...».

Мы ўсё яшчэ набліжаемся да Чачота. Яго мастацкі свет, які пры павярхоўным знаёмстве не стварае асаблівага ўражання, на самай справе аказваецца складанай з'явай, якая існуе аднaчасова ў розных сістэмах духоўных і эстэтычных вымярэнняў: беларуская мастацкая традыцыя — польская традыцыя, прафесійная літаратурная творчасць — фальклорная культура.

Для паўнаты ўспрымання літаратурнай спадчыны пісьменніка вельмі часта не хапае падключэння яго фалькларыстычных прац, якія асобна разглядаюцца гісторыяй фалькларыстыкі. Дый самі фальклорныя матэрыялы Чачота застаюцца цяжкадаступнымі, чакаюць перавыдання, а тыя рукапісныя зборнікі з віленскага архіва, якія апісала Л. Малаш, маглі б таксама нарэшце ўбачыць свет.

Таму з асаблівай удзячнасцю трэба паставіцца да публікацыі ў кнізе «Наваградскі замак» узораў народных песень са збору «Сялянскія песенькі з-над Нёмана і Дзвіны» («Колькі там нязмушанай і свежай паэзіі!»— Я. Чачот), артыкулаў пра беларускую («крывіцкую») мову і фальклор, слоўніка самабытных беларускіх слоў і прыказак. Як цешыўся, напэўна, Ян Чачот, што данясе нашчадкам крывічан пачутае на золку XIX стагоддзя дасціпнае народнае слова: «Не даў бацька шапкі, няхай вушы мерзнуць», «Прынясі, божа, госця, то і гаспадар пажывіцца».

Кніга «Наваградскі замак», дзе сабрана шматгранная творчасць Яна Чачота: паэзія, публіцыстыка, навуковыя працы, эпісталярная спадчына,— падрыхтавана да выдання паэтам і навукоўцам Кастусём Цвіркам. Відавочна, што ў гэтым выпадку было супадзенне творчых і чалавечых сімпатый, а таксама блізкасць навуковых інтарэсаў. І такая роднасць далёкага Чачота і нашага сучасніка дала добры плён. Кніга ўкладзена з любоўю, пераклады з польскай мовы гучаць увогуле натуральна, а грунтоўнасць каментарыяў сведчыць пра высокі навуковы ўзровень выдання. Збіраючы спадчыну Я. Чачота, хоць было гэта вельмі нялёгка, К. Цвірка прайшоў дарогамі паэта, надрукаваў пяць гадоў назад вялікі нарыс пра свайго ўлюбёнца «Там возера Свіцязь, як шыбіна лёду...» (публікацыя ў часопісе «Полымя», а затым у кнізе «Той курган векавечны...»). Увогуле ж вяртанне нашай літаратурнай спадчыны — гэта вельмі пачэсная, вельмі інтэлігентная справа. Яна робіць гонар кожнаму, хто бярэцца за яе.

**Люба ТАРАСЮК.**

# Прыняты ў Саюз пісьменнікаў БССР



**БАГДАНОВІЧ Ірына Эрнстаўна.** Паэтэса, крытык. Нарадзілася ў 1956 годзе ў горадзе Лідзе. Скончыла Гомельскі дзяржаўны універсітэт (1978) і аспірантуру Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы Акадэміі навук БССР (1983). Кандыдат філалагічных навук. Малодшы навуковы супрацоўнік Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы АН БССР.

Літаратурную працу пачала ў 1973 годзе.

Аўтар кніг паэзіі «Чаравікі маленства» (1985), «Фрэскі» (1989). шэрагу рэцэнзій, артыкулаў у друку і калектыўных зборніках.

**ЗЬНІЧ (БЕМБЕЛЬ Алег Андрэевіч).** Паэт, публіцыст. Нарадзіўся ў 1939 годзе ў горадзе Мінску. Скончыў Беларускі політэхнічны інстытут (1959), Мінскае музычнае вучылішча (1963), Беларускую дзяржаўную кансерваторыю імя А. В. Луначарскага (1969), аспірантуру Інстытута філасофіі і права Акадэміі навук БССР (1974).

Літаратурную працу пачаў у 1979 годзе.

Друкаваўся ў калектыўным зборніку «Крыло» (1984). Выйшлі кнігі «Рэха малітвы» (1988, Нью-Йорк), «Самота ростані» (1988, Беласток), літаратуразнаўчая праца «Роднае слова і маральна-эстэтычны прагрэс» (1985, Лондан).

**БУСЬКО Мікалай Іосіфавіч.** Паэт. Нарадзіўся ў 1940 годзе ў вёсцы Пагарэлка Карэліцкага раёна. Скончыў народны універсітэт мастацтваў у Маскве (1967). Мастак Баранавіцкай аўтаналоны № 2448.

Літаратурную працу пачаў у 1970 годзе.

Аўтар кнігі паэзіі «У Нёмна на плячы» (1986).



**КАВАЛЁЎ Сяргей Валер'евіч.** Крытык, паэт, дзіцячы пісьменнік. Нарадзіўся ў 1963 годзе ў горадзе Магілёве. Скончыў Беларускі дзяржаўны універсітэт імя У. І. Леніна (1985) і аспірантуру пры ім (1987). Выкладчык БДУ.

Літаратурную працу пачаў у 1980 годзе.

Аўтар кнігі казак «Мэва» (1988), зборніка літаратурна-крытычных артыкулаў «Як пахахаць ружу» («Бібліятэка часопіса «Маладосць», 1989).

**КРУЛЬ Міхаіл Аляксандравіч.** Празаік. Піша па-руску. Нарадзіўся ў 1943 годзе ў Маскве. Скончыў Мінскі архітэктурна-будаўнічы тэхнікум (1961) і Беларускі дзяржаўны універсітэт імя У. І. Леніна (1968). Інжынер 2-ой катэгорыі аб'яднання «Аўтарэмбудмаш» Мінаўтасельгасмаша СССР.

Літаратурную працу пачаў у 1976 годзе.

Аўтар кніг «Лунная лошадь» (1980), «День Юпитера» (1987) і іншых твораў.

**ХВАЛЕЙ Яўген Іванавіч.** Паэт, крытык. Нарадзіўся ў 1947 годзе ў вёсцы Бельнаўшчына Стаўбцоўскага раёна. Скончыў Беларускі дзяржаўны універсітэт імя У. І. Леніна (1971). Старшы рэдактар выдавецтва «Юнацтва».

Літаратурную працу пачаў у 1967 годзе.

Друкаваўся ў калектыўным зборніку «Нашчадкі» (1969). Аўтар кніг паэзіі «Прычасце» (1983), «Зялёны прамень аеру» (1987), кніжкі для дзяцей «Насціны гасцінцы» (1989).

ў нашай краіне і аднaчасова з'явіліся надзейнай прававой базай для станаўлення і развіцця навуковага атэізму ў дзяржаўным маштабе». Хацеў таго А. Круглоў ці не, але прызнаў, што наша заканадаўства заахвочвае атэізм, што тэізм — дзяржаўная палітыка.

Зрэшты, усё гэта мы ведалі і без А. Круглова. Ніякія саюзы ваяўнічых бязбожнікаў не пазачынялі б цэрквы, касцёлы, сінагогі і мячэці, калі б не дзяржаўная палітыка таго часу. Дацэнт А. Круглоў нават не задае пытанне: а як стасуецца такая палітыка, прапаведзь атэізму за дзяржаўны кошт у школах і ВНУ з прынцыпамі сапраўднай свабоды сумлення?

***Я пісаў ужо, што, чытаючы кнігу А. Круглова, адчуваеш няёмкасць за аўтара. Не толькі таму, што ён, кіруючыся пэўнымі ідэямі, не зважае на агульначалавечыя, дэмакратычныя каштоўнасці, але і таму, што ён часта выяўляе недасведчанасць. Нападаючы на уніяцкую царкву, аўтар дакарае Ф. Багушэвіча, што той «неправильно считал униатскую церковь как некую народную веру» (стыль!). Вучоны павінен ведаць, што гэтак думаў і К. Каліноўскі. Але чытаем далей: «У савецкі час беларускі вучоны У. І. Пічэта неправамерна перабольшваў ролю пратэстанцкай і уніяцкай цэркваў у захаванні і жывушчасці (!) беларускае мовы (яны адпраўлялі на ёй свае багаслужбы)». Пры гэтым А. Круглоў не разглядае факты. Факты яго не цікавяць. Ён працягвае: «Гэткага памылковага пункту гледжання пра тое, што унія ў пэўнай меры нібыта адыграла станоўчую ролю ў захаванні беларускага слова, беларускай пісьменнасці, прытрымліваюцца і некаторыя нашы сучаснікі, у прыватнасці, М. Гарэцкі, У. Караткевіч, А. Сідарэвіч». Дзякуй аўтару за тое, што ён залічыў мяне ў такую ганаровую кампанію, але мушу нагадаць яму, што М. Гарэцкі загінуў у 1939 годзе. Мушу нагадаць яму, што М. Гарэцкі нават у ссылцы спачувальна пісаў пра унію («Камароўская хроніка»). Мушу сказаць А. Круглову, што ў нас быў байкапісец У. Корбан, а не Карбан, што прозвішча віленскага арцыбіскупа было не «Ябижиковский»...***

Адмаўляючы ролю уніяцтва ў захаванні нашага слова і пісьменнасці, А. Круглоў піша: «На самай жа справе... усё было наадварот: пратэстантызм і уніяцтва змаглі прыжыцца і ўмацаваць свае пазіцыі перш за ўсё таму, што абапіраліся на нацыянальныя традыцыі, звычаі і мову беларускага народа». Ці не тое ж пісалі і памянёныя А. Кругловым аўтары? І якое «наадварот» бачыць тут вучоны атэіст? «Наадварот» было пазней — калі мітрапаліт Сямашка, гвалтам пераводзячы уніятаў у праваслаўе, паліў беларускія богаслужэбныя кнігі і забараняў нашу мову ў святынях.

Усе гэтыя «абвяржэнні» відавочнага, замоўчванні, паўпраўда вынікаюць з аднаго — з нежадання А. Круглова развітацца са старымі догмамі. Кніга пісалася ў той час, калі паўстала пытанне аб пераасэнсаванні нашай гісторыі, заканадаўства 1929 года, аб выпрацоўцы закона пра свабоду сумлення. Гэтыя павевы не мог не адчуць аўтар. І не мог не адрэагаваць на іх. Пачытайце заключэнне да кнігі. Дацэнту цяжка зразумець, чаму «шэраг вядомых савецкіх вучоных, пісьменнікаў і дзеячаў мастацтва... актыўна пачалі выяўляць, скажам прама, не заўсёды здаровую цікавасць да рэлігіі», яго абурае, што друк, радыё і тэлебачанне перасталі быць вотчынай бязбожнікаў і даюць плошчу і эфір тым, хто мае іншыя погляды, ён хоча давесці, што не атэісты разбуралі помнікі архітэктуры, ён сцвярджае, што больш як 80 працэнтаў насельніцтва БССР — атэісты, а «грамадзянам, якія ад рэлігіі адышлі, цэрквы, касцёлы і сінагогі непатрэбны». Ну, а праваслаўным, католікам, пратэстантам, іудзеям? А мусульманам іхнія мячэці?

Паважаючы атэізм А. Круглова, хацелася б бачыць, што і ён паважае сваіх ідэйных апанентаў, што не лічыць іх з самага пачатку рэакцыянерамі, цемрашаламі і выказнікамі варожых класавых інтарэсаў. Спаборніцтва ідэй павінна быць забяспечана роўнымі юрыдычнымі правамі тых, хто гэтыя ідэі вызнае. Паколькі царква ў нас аддзелена ад дзяржавы, трэба і атэізм аддзяліць ад яе. Няхай вернікі і атэісты выдаюць свае кнігі і часопісы за ўласны кошт.

**Дацэнт А. Круглоў піша, што «атэізацыя — працэс аб'ектыўны». Дык чаму ж яго турбуе, што, «скарыстаўшы дэмакратызацыю нашага грамадства, публічнасць і плюралізм», царкоўныя дзеячы «імкнуцца падняць аўтарытэт рэлігіі»? Мала таго, ён лічыць, што дзеячы царквы хочуць «выторгаваць для сябе найбольш ільгот ад дзяржавы». І не паказвае, што ж гэта за льготы. Наколькі мне вядома, цэрквы хочуць займацца дабрачыннай дзейнасцю, змагацца ў грамадскіх арганізацыях супраць п'янства, наркаманіі, злачыннасці, аказваць духоўную дапамогу тым, хто ў адчаі. Якая льгота ў тым, што цэрквы наладжваюць дабрачынныя духоўныя канцэрты і вечары, настаўляюць у казанях не забіваць, не красці, не зайздросціць, не распусьнічаць, жыць па праўдзе, здаюць грошы ў Фонд міру, у Дзіцячы фонд, у Фонд культуры?**

З заключэння да кнігі А. Круглова вынікае, што яму па душы абмежаванні на дзейнасць цэркваў, па душы такое становішча, калі выхаванне (за дзяржаўны кошт) вядуць толькі атэісты. Такім чынам ён, хоць і не прызнаецца ў гэтым, стаіць за захаванне заканадаўства 1929 года. Што ж тут казаць аб дэмакратыі і плюралізме?

**Анатоль СІДАРЭВІЧ.**

## ЮБІЛЕІ, ВЕЧАРЫ, СУСТРЭЧЫ



Нядаўна ў Доме літаратара адбыўся ўрачысты вечар, прысвечаны 90-годдзю з дня нараджэння Міхася Лынькова. У зале сабраліся тыя, хто добра ведаў Міхася Ціханавіча, сябраваў з ім, а таксама шматлікія прыхільнікі таленту народнага пісьменніка. У вечары бралі ўдзел жонка М. Лынькова Соф'я Захараўна, сястра пісьменніка Пелагея Ціханаўна і яго брат Мікалай Ціханавіч.

Янка Брыль, які вёў вечар, сказаў ухвальнае слова не толькі пра Лынькова-пісьменніка, а і пра Лынькова-чалавека і грамадзяніна. Успамінамі падзяліліся І. Шамякін, С. Шушкевіч, С. Грахоўскі, Д. Бугаёў, В. Адамчык.

Дзе плямінка ад шчыліны замочнай,
Што нас вядзе і ў далечы паўзмрочнай
Пасвеціць пры апошніх кроках нам.

**Нільс ФЭРЛІН**

*(1898—1961)*

## *Зоркам усё роўна...*

На небе іх колькі вунь ззяе!..
Легенда вядома здаўна:
Калі чалавек памірае,
Дык падае зорка адна.

Задоўга перад світаннем,
Пры золкім, скразным свежаку
Чуў я сабак скавытанне —
Як быццам па мерцвяку...

Сіроты стагналі: «Хлеба...»
Ды толькі ўсё роўна для зор
І для блакітнага неба,
Ці там хто жывы, ці памёр.

**Гары МАРЦІНСАН**

*(1904—1978)*

## *Верш*

Давай узнімем бубен па-над светам.
Зірні: ён — твой вятох, які нядаўна,
У жніўні, лес калоў; цяпер ён ясны
І круглы — бы сямі шынкоў уласнік.

Табе здаецца: мы гаворым мовай
Нябёс высокіх і глыбокіх тваняў.
Мы хочам новым бачыць зорак ззянне,
Ўдыхнуць у тваю кветку водар новы.

О браце, браце! Што б за навальніцы,
Пажары ні шугалі па-над светам —
Будзь вечна падуладны словам гэтым:
*Дай водар кветцы.*

Пераклаў са шведскай
Лявон БАРШЧЭЎСКІ.

Ганарар перакладчык просіць пералічыць на рахунак № 141713 у Рэспубліканскім жылсацбанку – на Беларускі музей у Гайнаўцы (ПНР).

**«Я не ведаю адкуль, але беларуская мова жыве ўва мне, я адчуваю яе. Кожнае беларускае слова здаецца мне знаёмым, як быццам я заўсёды ведала яго», —кажа балгарская паэтка Зоя Васілева, якая прыехала ў нашу рэспубліку, каб вывучаць беларускую мову і перакладаць нашу літаратуру. Сапраўды, яна ўжо добра размаўляе па-беларуску. Зоя Васілева сафіянка, мае шмат публікацый у балгарскім перыядычным друку. У 1988 годзе ў выдавецтве «Народна младеж» выйшаў яе першы паэтычны зборнік. «Калі я надумаю палюбіць вас». Зараз Зоя спяшаецца пазнаёміць балгарскага чытача з маладой беларускай паэзіяй і лічыць, што не адкрыць для яго гэты сапраўдны скарб было б недаравальна. А мы з задавальненнем знаёмім чытачоў «ЛіМа» з вершамі Зоі Васілевай.**

**Зоя ВАСІЛЕВА**

## *Бура*

Як жа стацца магло, што нябёсы нахмураны грозна
і што ў сутаргах курчыць зямлю — як жа стацца магло.
Бы дубцы, выварочвае букі, яліны і сосны.
Смерч за смерчам у неба шалёна нацэльвае лоб.
Град жалезнай рукою нібы пустазелле цярэбіць.
Уздыхае і енчыць вада, як прадвеснік бяды.
Мілы блазан, ратуй жа — расказвай, расказвай што-небудзь,
Каб не бачыць за шыбаю пеннай сівой барады.
Страшны голас стыхіі. Грукоча і стогне трывожна.
У хаосе спіралі ўзлятаюць на дзікіх вятрах.
І слабы чалавек — як згубіўшы свой шлях падарожнік.
І кароткі такі ў неабсяжнасці згублены шлях.
Абарваліся неба з зямлёю, змяшаліся ўночы,
Моцны лёд іх схаваў назаўжды ў бесчасоўі пустым.
Здрыганулася нешта. Хаос на каня свайго скочыў.
У абмерлай прасторы і конь ледзьве дыхаў пад ім.
Раптам неба рванулася ўвысь і расправіла крылы.
Мілы блазан, твой смех серабрысты мне сэрца раскуў.
Буры як не было. Пад вясёлкай святло заіскрыла.
Дай мне шклянку вады супраць буры на белым лістку.

●

Якая мяккасць і спакой.
Пастэльны і лагодны вецер
спявае ў траве і вецці,
схаваны ў медным лісці, недзе
у сэрцы восені самой.
Які ж пяшчотны гэты стогн,
што льюць сухія вочы кветак.
Сем фарбаў — восені прыкмета,
а восень —
трапяткі паўтон.
І спеўны смех цыкад малых
такім бясконцым шчасцем свеціць.
Прыкметным тое робіць вецер,
чаго не можа ўбачыць смех.

●

Галлё за плячыма. Нішто сабе клумак, не лёгкі.
Скаціна б змаглася, даўно б на дарозе ўпала.
Адзенне закрэмзана латамі, твар палінялы —
на ўзгорак узлазіш ты вочы прыплюшчыўшы трохі.
З ілба твайго град перастаў на сцяжыну каціцца.
Спужаная птушка крылом цябе выцяла ў грудзі.
Прысядзь, адчыні ім — гады цябе ўласныя будзяць,
пастукалі ў памяць, прыйшлі вось па хлеб і вадзіцу.
І зніме пакунак твой нехта з плячэй сярод ночы.
І полымя ўвысь шугане, і паваліцца пушча.
Калі ж разбярэш сілуэты, ўначы невідушчы,
наблізіцца смерць, каб узяць у цябе толькі вочы.

З балгарскай пераклала
Марына АБРАГІМОВІЧ.

малатарня, і не было, здэцца, паратунку ні ад гэтага ўедлівага гуду, ні ад дурнога, незразумелага холаду. Хацелася вельмі заснуць, каб забыцца на ўсё. Ён нават лічыў да ста і болей, адно ж кінуў гэты занятак, адчуўшы, што дарэмна губляе час. Тады ён падняўся, узяў з печы стары кажух, са шкапа яшчэ і Колеву тужурку, акрыў лепей ногі, галаву, а вушы заткнуў пальцамі.

Колькі гэтак, стаміўшыся, ляжаў, ён не ведаў. Пасля неўпрыкмет праваліўся бы ў якую бездань. Вярзлося чортведама што.

Калі грукнулі дзверы і ён, няўцямна лыпаючы вачыма, падняў галаву, холаду ўжо гэтага не адчуў, ды і гуд нібы паслабеў. Прыслухаўся. Але ніхто не ішоў. Вадзім зразумеў, што яму падалося наконт грукату. Хацеў ужо ўстаць, быў нават спусціў долу ногі, аднак ранейшая слабасць зноў кінула ў пасцель.

І зноў пачало чаўпціся рознае страхоцце. Знекуль выплыў азызлы ад гарэлкі твар Давэцькі, пасля ён увесь сам і чамусьці верхам на агромністым, вышэй хаты, калаўроце з іхняе студні.

Яны ж з Дзімкам якраз вылушчвалі з пшанічных каласкоў спялейшыя, найбольш ядраныя зярняткі, ласаваліся імі і зусім не прыкмецілі, як Давэцька на тым агромністым коле-калаўроце падкраўся да іх ззаду. Калі пачулі нарэшце шум і азірнуліся, было позна бегчы ў лес, хавацца ў гушчары. З поўнымі ратамі белай смачнай кашыцы яны пусціліся наўцёкі па пшанічным полі.

Першы Дзімка, за ім і ён, Вадзім. Ногі блыталіся ў густых высокіх сцяблінах, калоссе няшчадна біла па вачах, губах, а калаўрот з Давэцькам наверсе, змінаючы, вынішчаючы за сабой цэлую шырозную палосу, усё больш і больш набіраў ходу, наступаў ім на пяткі.

Вадзім ужо не мог здыхацца, здаецца, вось-вось разарвуцца на шматкі лёгкія, і ён упадзе пад страшнае пачварнае кола. А тут яшчэ гэты здзекліва-вар'яцкі рогат Давэцькі, ад якога дыбарам станавіліся валасы! «Не адста-в-ай! — абарочваўся, крычаў яму Дзімка. — Блізенька ўжо роў, кола там трасцу пакоціцца».

Вадзім налёг з апошніх сіл, ледзьве быў не дагнаў сябрука, але нага зачапіла за камень, і ён потырч паляцеў на зямлю. Заплюшчыў вочы, чакаючы апошні свой канец. Ды тут падскочыў Дзімка, тузануў за руку, пацягнуў яго за сабой.

Поле пайшло трохі на схіл, і бегчы стала нібыта лягчэй. Толькі і кола з п'яным седаком на ім набавіла абаротаў, ззаду ўсё мацней чуўся яго зласвесны скрып і шоргат. «Ха-ха-ха-а! Ух, ха-ха-ха-а!» — рагатаў ужо як не над самым вухам Давэцька.

І тады здарылася нечаканае.

Дзімка, коратка кінуўшы Вадзіму, што роў ужо зусім побач, раптам спыніўся, распасцёр рукі і... сам грудзьмі пайшоў на кола. Давэцька перастаў танцаваць наверсе, ад неспадзеўкі вырачыў вочы, хацеў нібыта затармазіць сваю чортаву машыну, ды ці не паспеў, ці не змог: Дзімка, умомант падмяты, расплішчаны, застаўся ляжаць на пшанічным полі. «Дзім-ка-а! — забыўшыся пра небяспеку, пра ўсё на свеце, кінуўся да яго Вадзім. — Дзімка-а!..»

— Ты чаго, чаго? — як з-пад зямлі, дайшло да слыху, пасля, адчуўшы дотык да пляча, ён зноў ускрыкнуў, усхапіўся, памкнуўся некуды бегчы. Коля ўтрымаў яго, пасадзіў назад на ложак, заклапочана сказаў: - Не трэба так убівацца. Усё роўна не вернеш з таго свету. Хоць крычы, хоць скавычы. Вот толькі абідна, што і не пажыў...

Канчаткова ачомаўшыся, Вадзім зіркнуў у акно. На дварэ за той час, пакуль ён спаў ці мо трызніў, добра выяснілася, на небе ўжо высока раскашавала сонца, шчодрае яго святло залівала ўвесь пакой. Вадзіму было горача, твар чамусьці гарэў агнём, і гэта заўважыў Коля.

— Дык у цябе ж, пэўна, жар? — брат і раз, і другі падносіў далонь да яго лба, колькі хвілін трымаў так. — Што ж рабіць? А я хацеў заўтра, калі пахаваюць Дзімку, паехаць. На дзён хоць колькі, пакуль рабіць...

Напамінак пра Дзімку зноў скалануў Вадзіма, ён выбег на ганак, пастаяў трохі, пасля пабрыў пад паветку, прыхінуўся да дубовага шула.

Коля знайшоў яго, як не сілком зацягнуў назад, у хату. Сказаў:

— Зараз вот напалю печ, на ёй за ноч і вычухаешся. А пакуль лезь у ложак, ляжы. Я і звару што. Нечага, можа, наскрабу.

Назаўтра Вадзім і праўда адчуў у целе палёгку. Але на сэрцы па-ранейшаму было пагана. Пра школу, пра тое, што на носе экзамены, зноў нават не падумаў. Брат, праўда, заікнуўся раніцай, каб збегаў, пакуль хаваць Дзімку, хоць на колькі ўрокаў. Але Вадзім бы і не чуў яго слоў, сядзеў за сталом, гартаў нейкую кнігу, спрабаваў чытаць. Толькі ні слоўца з таго, што чытаў, ён не помніў.

Коля адчапіўся ад яго, ляпнуўшы дзвярыма, некуды падаўся, мо нават да Марылі, каб што памагчы.

Перад абедам, калі паваліла ў той бок вяскоўцы, пайшоў з усімі і Вадзім.

Ніколі яшчэ, мусіць, іхняя вуліца не збірала разам гэтулькі людзей, як зараз. На машыне, поўны ажно кузаў, прыехалі нейкія хлопцы, дзядзькі з абветранымі тварамі, цёмнымі ад жалеза і саляркі рукамі. Той-сёй быў у камбінезоне.

Вадзім адразу здагадаўся, што гэта эмтээсаўскія. Адтуль жа, з кузава, знялі вялізныя медныя трубы, паклалі на траве ля плота. Малеча адразу кінулася разглядваць гэткія незвычайныя цацкі.

— Аркестру прывезлі, — прашамкала бяззубым ротам Тэкля, якая, абапіраючыся сёння на сукатую палку, тупала чамусьці наводдаль ад іншых баб, нават не імкнулася да гурту.

У хату, каб і хацеў, было б зараз не ўшыцца. Праз адчыненае акно Вадзім бачыў там найбольш жанок. Яны, выплакаўшы, пэўна, усе слёзы, моўчкі сядзелі наўкруг састаўленых разам дзвюх лаў, дзе мясцілася абабітая чырвонай матэрыяй дамавіна. Ён пазнаў і Марылю. Але яна гэтак змянілася з учарашняга, што страшна было нават глядзець на яе. Марыля, якую падтрымлівала за локаць цётка Саша, стаяла наўколенцах ля галавы сына, штохвіліны нахілалася, худымі, ажно нейкімі жаўтлявымі пальцамі гладзіла Дзімкаў лоб, твар, папраўляла, каб лепей ляжалі, маленькія букецікі лясных пралесак — іх раніцай назбіралі і прынеслі ў хату дзеці.

— Ты лепш паплач, паплач, — угаворвалі яе кабеты. — Са слязамі лягчэй будзе.

Вадзім не вытрываў глядзець на ўсё гэта, адышоўся ад акна і пабрыў на лог. За вёскай ужо ўспомніў учарашні свой сон, пшанічнае поле, па якім яны з Дзімкам беглі, бараніліся ад Давэцькі і яго страшнага кола, і чамусьці вельмі захацелася ўзяць дзе зараз колькі каласкоў, пакласці ў труну да Дзімкі. Але ж дзе, дзе іх узяць? Пустых, без зярнят, назбіраць яшчэ можна, пахадзіўшы па леташнім незаараным іржэўніку. А вось каб цэлых, поўненькіх ды важкіх, ды яшчэ каб пшанічных, такіх, якімі яны і напраўду, не ў сне, неаднойчы ласаваліся ў полі, калі вельмі хацелася есці?

І тут яму раптам успомнілася, што такія каласкі, нават цэлы іх снопік, ён бачыў неяк увосень у дзядзькі Даўнара, да якога бегаў з міскай узяць салёных агуркоў (Даўнар, будучы на канюшні, сам праз Колю наказваў прыйсці да іх па гуркі, бо яны са сваёй старой насалілі цалюткую ажно бочку, а есці не могуць — у абаіх нешта з жыватамі зрабілася). Тады Вадзім, чакаючы ў хаце, пакуль цётка Гэлька тэпала ў склеп, і звярнуў увагу на той пшанічны снопік, які, абвіты стужкамі, стаяў у паліваным гладышы на палічцы ў куце, пад іконаю.

Дзядзькі Даўнара якраз не было, паехаў у лес па дровы, і Вадзім, ад няма чаго рабіць, памацаў рукамі яго музыку — кларнет, што вісеў на сцяне, з-за якога дзядзьку ведалі, пэўна, у кожнай вёсцы, ды і ў мястэчку— гэтак хораша ён іграў на ім.

Падышоў Вадзім і да снопіка, таксама падзівіўся, як добра, лепш нават, чымся які вазон, глядзіцца гэткае ўпрыгожанне ў хаце. Яшчэ падумаў тады, што і сам калі-небудзь, як будуць жаць, назбірае, а то і вырве колькі сцяблінак жыта, а лепш, мусіць, пшаніцы, звяжа і паставіць сабе на стол ці на падаконнік.

Успомніўшы ўсё гэта, Вадзім проста з логу, праз агарод, папраставаў паўмежкам да Даўнаровай хаты. Цяпер ён толькі непакоіўся, каб хаця засцець каго дома. Цётку Гэльку то пэўна ўжо ветрам здзьмула, здэцца, ён бачыў яе ў Марылінай хаце. А вось самога Даўнара сярод мужчын не было. Гэта ён дакладна помніў.

І праўда — дзядзька стаяў на ганку, замыкаў ужо дзверы, як Вадзім высунуўся з-за хлява.

— Дзядзька! Дзядзька Даўнар! — спяшаючыся, каб чалавек часам не пайшоў на вуліцу, за вароты, бо пасля няёмка будзе прасіць яго вярнуцца, моцна гукнуў Вадзім.

— А-а, ты, хлопча, — абярнуўся на яго голас дзядзька. — Нехта, нябось, прыслаў чаго? То кажы, дый пойдзем разам. Пара, бо. А то без нас пахаваюць. А гэта нядобра было б з нашага боку. Я вот і кларнет узёў... — Ён раптам спахапіўся, пільна глянуў Вадзіму ў вочы, папытаў: — А чаму ад хлява ідзеш? Ці шукаў мяне тамака? Я ж у доме поркаўся.

Вадзім не ведаў, як і што сказаць, пасля прызнаўся:

— Быў я ўжо ля Марылі... Цяжка стала, дык я на лог. І во, успомніў, што ў вас каласкі. Ну, што ў куце, пад іконамі якія.

Дзядзька Даўнар нічога не разумеў. і Вадзім мусіў больш не таіцца:

— Дык я хацеў папрасіць колькі і пакласці да Дзімкі. Кветкі ж кладуць, дык і каласкі, можа...

Яны падышлі да Марылінай хаты, калі чацвёра эмтээсаўскіх выносілі Дзімку на падворак, пасля на вуліцу. Цяпер ужо гралі трубы, але ў музыкантаў нешта з самага пачатку не заладзілася, і яны, трохі яшчэ падзьмуўшы, склалі свае інструменты ў машыну і пайшлі, апусціўшы галовы, разам з усімі.

Вадзім не ведаў, як яму быць: зараз вось наблізіцца да труны і, працягнуўшы руку, кінуць туды каласкі, ці ўсё ж на могілках, калі стануць развітвацца? Ён, можа, і зрабіў бы гэта зараз, быў нават амаль што параўняўся з дзецюкамі, якія, па двое з кожнага боку, неслі не вельмі цяжкую сваю ношу.

Ды тут сярод заплаканых жанок Вадзім згледзеў Давэцьку, і нешта адразу ў ім надарвалася, нейкі туман зноў наплыў на вочы, а сэрца часта-часта затахкала, гатовае выскачыць з грудзей.

На могілках яму не стала лепш. Наадварот, калі раптам дзядзька Даўнар зайграў на сваім кларнеце, а пад тое яго надта тужлівае гранне, якое рвала душу і пераварочвала нутро, загаласілі жанчыны, найперш — Марыля, Вадзім ужо дрэнна ўспрымаў усё акаляючае. Праўда, як бы там ні было, а ў галаве не-не дый кволілася думка ўсё ж неяк пакласці пшанічныя каласкі ў труну.

Гэта яму нарэшце ўдалося зрабіць, калі Давэцька некуды адвінуўся, бо пры ім Вадзіма пачынала ажно калаціць. І ў такім стане ён баяўся, каб часам не сарвацца, не крыкнуць пры ўсіх: «Вы, вы вінаватыя, і Дзімку вам не шкода, аніколечкі не шкода. Я ж нават і ў сне сніў, як вы... як звялі яго са свету...».

Але ён і не крыкнуў, і не сказаў нікому ні слова. Ні ў часе жалобы, ні тады, калі, яшчэ раз аглянуўшыся на пагорачак на Дзімкавай магілцы, пабрыў ціха дадому.

Сёння ён не караў сябе за гэтае маўчанне, ведаў — яшчэ будзе і дзень, і час, калі скажа ўсё, што трэба сказаць, што вынасіў у сваіх думках, што накіпела на сэрцы.

**Пра дзелавую гульню-семінар Саюза кінематографістаў БССР «Фундаментальныя каштоўнасці беларускай культуры» «ЛіМ» паведамляў ужо неаднойчы. Кіраўнікі гульні, сацыёлагі і метадолагі маскоўскай групы П. Шчадравіцкага, яшчэ апрацоўваюць даныя, падводзяць вынікі і робяць высновы, мы ж прапануем увазе чытачоў водгукі і развагі ўдзельнікаў гэтай акцыі — кінакрытыкаў Е. Бондаравай і Н. Фральцовай.**

# УВАЙСЦІ Ў НАЦЫЯНАЛЬНЫ КАНТЭКСТ

Я ДАЛА ЗГОДУ ўдзельнічаць у семінары нязвыклай формы болей з цікаўнасці, чым кіруючыся верай у неабходнасць такога мерапрыемства. Уяўлялася, што гэта нейкая штучная, неарганічная прадмету абмеркавання задума. Сапраўды, як можна падвесці пад строга метадалагічныя формулы культуру ў розных яе праявах? Хіба можна прадбачыць, калі і колькі з'явіцца культурных каштоўнасцей? Аднак паступова пераконвалася: варта вось так сабрацца разам і наладзіць бескампрамісную праверку розных галін культуры — ад побытавай да палітычнай...

Абагульненая «перфаграма» нашых назіранняў і высноў яшчэ не складзена (рэкамендацыі з'явяцца пасля навуковай апрацоўкі ўсіх даных). Таму я падзялюся толькі тым, да чаго мела асабістае дачыненне, над чым давялося думаць у пазначаным статусам «гульні» рэжыме альтэрнатыўнага мыслення.

КІНЕМАТОГРАФ — маладзейшы і, бадай, самы рухомы «складаемы» ў паняцці «мастацкая культура». Скіраваны на шырокія масы, ён шчыльна зліты са сваім часам і нясе на сваім абліччы яго пячатку. І працэсы, якія адбываюцца ў ім, самым непасрэдным чынам звязаны з тэндэнцыямі грамадства. Вылучаю кінематограф яшчэ і таму, што ягоныя сувязі з нацыянальнай культурай нетрывалыя на працягу ўсёй гісторыі існавання і гэта асабліва важна падкрэсліць напярэдадні 65-ай гадавіны (17 снежня 1924 г.) з часу стварэння на Беларусі дзяржаўнай кінавытворчасці. За фармулёўкай тэмы гульні — «Беларускі кінематограф у кантэксце нацыянальнай культуры» — праблемы найскладанейшыя. Пачаць з таго, што сам гэты «кантэкст» расплывісты. Агульнай была думка ўдзельнікаў семінара: стан нашай культуры нездавальняючы, у некаторых галінах — тупіковы.

Невялікі гурт кінематаграфістаў (сярод іх, дарэчы, прысутнічаў толькі адзін мастацкі кіраўнік з пяці кіраўнікоў новых студый, утвораных на «Беларусьфільме» — В. Нікіфараў*, ён самы ж першы сакратар СК БССР) і крытыкаў спрабаваў «змадэляваць» месца рэальнае і магчымае (пажаданае) беларускага кінематографа ў кантэксце нацыянальнай культуры. З самага пачатку спрэчак мы спатыкнуліся на паняцці «беларускае кіно». Што за ім — проста вытворчасць фільмаў на Беларусі ці частка, галіна нацыянальнай культуры? У першым выпадку давялося б канстатаваць толькі тэрытарыяльную прыналежнасць прадукцыі з маркай «Беларусьфільм» (па большасці выпадкаў так яно і ёсць). Аднак мы ўсё ж шукалі апраўданне вызначэння «беларускае кіно». І знаходзілі яго ў асобных, вельмі нешматлікіх фільмах. За час існавання «кінематографа з рэспубліканскаю прыналежнасцю» створана ўжо звыш чатырохсот толькі пастановачных фільмаў. Але адметных, такіх, што ўзбагацілі культуру беларускага народа, колькі? Я магу назваць 10—15, болей катэгарычныя крытыкі — і таго меней.

Што ж з кампанентаў, якія вызначаюць паняцце «твор нацыянальнай культуры», ёсць у большасці нашых фільмаў?

Месца жыццядзейнасці галоўных герояў некаторых стужак, экранны антураж і зрэдку моўная характэрнасць персанажаў. Такія стужкі з'яўляліся ў розныя гады. Не толькі рэжысёры, што пачыналі, але і «шасцідзесятнікі», і рэжысёры пазнейшага «прызыву» час ад часу траплялі ў кантэкст культуры Беларусі і адначасова — больш шырокі. Звычайна ў творчы здабытак залічваюцца карціны «Канстанцін Заслонаў», «Гадзіннік спыніўся апоўначы», «Чырвонае лісце», «Праз могілкі», «Іван Макаравіч», «Альпійская балада», некалькі экранізацый класікі, твораў беларускіх пісьменнікаў. Аднак і ў іх адсутнічае важнейшы кампанент нацыянальнага — мова. В. Тураў у мележаўскай «Палескай хроніцы», праўда, паспрабаваў яе скарыстаць, але — як «калаж» з рускаю, ці што? Адметнасцю больш глыбіннай вызначаюцца хіба што фільмы В. Рыбарава «Чужая бацькаўшчына» і «Сведка» паводле В. Адамчыка і В. Казько. Моцную сувязь з зямлёй, ладам жыцця, лёсам беларусаў маюць цэнтральныя героі дылогіі М. Пташука паводле «Знака бяды» В. Быкава. Але і яны чамусьці размаўляюць па-руску.

У нашым кіно ёсць унікальныя па змесце дакументальныя кінатворы В. Дашука паводле А. Адамовіча, Я. Брыля, У. Калесніка («Я з вогненнай вёскі») і С. Алексіевіч «У вайны не жаночае аблічча»). Першымі дакрануліся да пякучай праблемы аўтары «Болю». У спіс набыткаў можна залічыць экранізацыю твораў І. Тургенева рэжысёрамі В. Туравым, В. Чацверыковым, В. Нікіфаравым, В. Рубінчыкам і некалькі мультыплікацыйных фільмаў.

Так, творы, якія ўзнімаюцца да мастацтва, на «Беларусьфільме» ёсць. І ўсё ж няўмольная логіка аналізу падвяла да высноў: за шэсць з лішкам дзесяцігоддзяў у рэспубліцы не склаўся кінематограф — як арганічная частка нацыянальнай культуры. А на агульным кінематаграфічным фоне краіны мы выглядаем трывалымі «сераднякамі». Пераважная частка фільмаў, што ствараліся і ствараюцца ў рэспубліцы, — з героямі бязроднымі, з характарамі схематычнымі. Перамена структуры кінавытворчасці, пазбаўленне ад залішніх кіруючых інстанцый нічога, мяркуючы па прадукцыі апошніх гадоў, не змяніла.

Разумеючы тое, што кінематограф болей за іншыя мастацтвы звязаны з шырокім рынкам (а нацыянальна адметныя фільмы наўрад ці могуць прэтэндаваць на ўсеагульны і тым болей на тэрміновы поспех), удзельнікі семінара ўсё ж прапанавалі сёе-тое перамяніць, ахрысціўшы свае прапановы «культурнай кінаініцыятывай». Гэта — комплекс мерапрыемстваў, якія скіраваны на паслядоўную падтрымку фільмаў аб карэнных праблемах беларускага народа і створаныя на беларускай мове. Спачатку 2—3 з 10—12 фільмаў, якія здымаюцца штогод. Колькасць іх будзе расці па меры кансалідацыі творчых сіл, усведамляючых, што нацыянальнае не азначае ні абмежаванасці, ні скідкі на якасць.

ДРУГАЯ ПРАБЛЕМА, якую мы абмяркоўвалі, — месца і роля крытыкі ў кінапрацэсе і, шырэй, — у культурным жыцці. Драматычны стан беларускай літаратурна-мастацкай крытыкі пераканаўча, на мой погляд, паказаны ў двух артыкулах доктара філалагічных навук Міхася Мушынскага «Пра крытыку без злучніка» («ЛіМ», 1989, №№ 44, 45). Аўтар грунтуецца ў асноўным на матэрыяле крытыкі літаратурнай, якая мае даволі значнае кола аўтараў, літаратурныя выданні. Сітуацыя з кінакрытыкай значна горшая.

Супаставіўшы прызначэнне крытыкі і яе рэальны стан, мы прыйшлі да высновы: у рэспубліцы адсутнічае інстытут літаратурна-мастацкай крытыкі на-

Карыстаючыся выпадкам, хачу выправіць допушчаную па маёй віне памылку. У артыкуле «Час прачытання класікі» («ЛіМ» за 20 кастрычніка) у выказванні В. Нікіфарава замест слова «вандэя» трэба чытаць «вендэта».

# КІНО Ў ГУЛЬНІ І ПА-ЗА ГУЛЬНЁЙ

АПОШНІМ ЧАСАМ на беларускае кіно прынята сварыцца. Калі нехта раптам скажа штосьці добрае, гэта ўспрымаецца як кепскія манеры ў грамадстве галоснасці. Музыка, жывапіс, тэатр, архітэктура, бібліятэкі яшчэ могуць разлічваць на спачуванне шырокай грамадскасці: маўляў, сталінізм, застой, каманднa - адміністрацыйная сістэма ў культуры. Кіно гэтага шанцу пазбаўлена. У паважаным сямействе мастацтваў і культуры яно аказалася самым вінаватым у падзенні агульнай духоўнасці і гаротным стане народнага духу. Калі гаварыць аб'ектыўна, то абвінаваўцаў можна зразумець. Падманутыя спадзяванні, страчаныя мары, перавернутыя люстэркі — самае масавае з мастацтваў сёння расплачваецца за тое, што зусім нядаўна горда несла ў масы «разумнае, добрае, вечнае» неабмежаванымі колькасцямі і накладамі: не дзіўна, што ў свеце «вялікай ілюзіі» саспелі спробы ўдару ў адказ.

ЯКІМ ЧЫНАМ развівацца беларускаму кінематографу, каб не выпасці з агульнакультурнай плыні да адраджэння нацыянальнай традыцыі ў формах мастацтва, каб зрабіцца самаакупным, г. зн. набыць у вачах шматлікай публікі каштоўнасць дарагой, але штодня неабходнай рэчы? Можна сказаць, што гэта — карэннае пытанне не толькі кінематаграфічнай сучаснасці ў нас, у Беларусі... Упершыню ва ўмовах усеагульнага эканамічнага крызісу перад кінематографам паўстала задача разлічыцца па старых вэксалях, не прынізіўшы сябе пры гэтым як вялікае мастацтва.

Калі спрабуеш сесці між двух крэслаў, звычайна высакародны выраз твару не памагае. Верагодна таму пленум СК СССР у Маскве, мякка дакрануўшыся да лёсаў нацыянальных кінематаграфій, вырашыў лепш застацца з «тварам», а «крэсламі», маўляў, няхай распараджаецца кіраўніцтва на месцах. Вось чаму ў цэнтры была сагрэта цяплом гарачага ўдзелу ідэя нашага рэспубліканскага саюза «праіграць» будучую сітуацыю з нацыянальным кіно, запрасіўшы для гэтага спецыялістаў і прадстаўнікоў сумежных творчых прафесій. Неўзабаве на Беларусь прыехала група маскоўскіх метадолагаў пад кіраўніцтвам П. Шчадравіцкага, якая і разыграла з вялікай колькасцю запрошаных удзельнікаў напружаную партыю. Паколькі гэта была «дзелавая гульня», паўстае пытанне, у якім стане апынулася сама «справа».

Упершыню ў гісторыі беларускага кіно да яго праблем была прыцягнута ўвага прадстаўнікоў грамадскіх і гуманітарных навук, членаў іншых творчых саюзаў, работнікаў роднасных арганізацый і ведамстваў. Гэта было рэдкае і павучальнае відовішча, калі ініцыятыва кінематаграфічнага саюза дазволіла аб'яднаць у адзіным інтэлектуальным парыванні такія магутныя сілы.

Дык ці з'яўляецца кінематограф прадметам нацыянальнай культуры або гэта з'ява наднацыянальная?

**У фільме В. Рыбарава «Мяне клічуць Арлекіна» ёсць характэрная сцэна, у многім тыповая для сённяшняга часу. У правінцыйным прыгарадзе, дзе культура ніяк не ўздымецца на пажаданы ўзровень на працягу бліжэйшага дзесяцігоддзя, героі цудоўна абыходзяцца паслугамі прадпрымальнага цыгана, які мае японскі «відзік» з наборам вядомых касет. Адасоблена ад навуковых пошукаў цэлае пакаленне вырашае, так бы мовіць, праблему глабальных камунікацый у галіне абмену нацыянальнымі каштоўнасцямі. І наўрад ці той самы Курасава сніў касавы поспех, які мае які-небудзь яго суайчыннік, што спецыялізуецца на тыражаванні прыёмаў каратэ праз японскую ж відэакультуру. Пры гэтым абодва задаволены. Адзін — вялікай славай. Другі — вялікімі грошамі.**

**Такі погляд на рэчы прымушае паглядзець на прадмет спрэчак з другога боку. Гаворачы аб нацыянальным у такім масавым мастацтве, як кінематограф, а шырэй, у экранным мастацтве, наўрад ці мы можам уявіць усю стракатасць гэтага аўдыёвізуальнага «краявіду» без даследавання працэсаў, якія адбываюцца сёння ў свядомасці асобнага чалавека і насельніцтва цэлага рэгіёна. Без супастаўлення гэтых даных з сістэмай тых нацыянальных каштоўнасцей у экранным мастацтве, якія пажадана мець, немагчыма рухацца далей, у практыку. Адсюль, па-мойму, тая супярэчнасць, якая выявілася паміж «гульцамі».**

ПРЭЗІДЫУМ Саюза кінематаграфістаў рэспублікі, які ўжо трэці год паслядоўна праводзіць лінію на перабудову кінасправы, мэту перад сабой ставіў досыць канкрэтную — дакладна вызначыць бліжэйшыя перспектывы ў развіцці менавіта нацыянальнага кінематографа. Астатнія ўдзельнікі сустрэчы аказаліся зусім далёкімі не толькі ад такой пастаноўкі задачы, але і ад ведання ўнутранага стану нашага кіно. На дыскусіі з дзіўным аднадушшам гучала думка аб тым, што беларускі кінематограф выпаў з кантэксту беларускай культуры. Абвінавачанні ў адсутнасці на нашым экране беларускай мовы, беларускіх акцёраў, атрыбутыкі ўласнай матэрыяльнай культуры сталі агульным месцам. За гэтым паўстала відавочная выснова, якую іранічна вызначыла такая, напрыклад, рэпліка: дастаткова апрануць наша кіно ў андарак XIX стагоддзя, і яно зробіцца беларускім!

Я ніякім чынам не апраўдваю гэтыя недахопы нашага кіно, але заўважу, што на такім прадстаўнічым сходзе хацелася пачуць іншае: ці выяўляе наш кінематограф светаадчуванне нацыі, ці адпавядае ў сваіх эстэтычных формах густавым арыентацыям, ці нясе ў сабе ўсведамленне чалавекам спецыфічнага характару той этнічнай прасторы, у якой адбываецца яго жыццядзейнасць. А калі ўсяго гэтага няма, ці яно прысутнічае фрагментарна, у разарваных эмацыянальна - псіхалагічных тканках, у агрубленых сацыяльнымі абставінамі формах, у выпадковых успышках гістарычнай памяці, то гэта, на мой погляд, не паправіш той касметыкай, якую шмат хто шчыра прапаноўваў скарыстаць. Таму што нязменным застанецца галоўнае — беларускі кінематограф у сілу сваёй бачнасці, натуральнай прадметнасці як экраннае мастацтва ў цэлым адлюстраваў агульнакультурны працэс з яго гістарычнай амплітудай развіцця. Тое, што мы маем кіно ў такім выглядзе, як яно ёсць, — не яго толькі асабістая «заслуга». Гэта — спадчына пэўнай культурнай эпохі, калі пад культурай разумець сукупнасць відаў цывілізаванай дзейнасці.

**У гэтым сэнсе трэба пытацца пра іншае: як сама нацыянальная культура ці яе паўнацэнныя носьбіты з традыцыямі, вопытам, школай, былі аб'ектыўна зацікаўлены ў нацыянальным кінематографе. А прадаўжаючы гэты лагічны шэраг, няцяжка ўспомніць, як у сістэму культурных нацыянальных каштоўнасцей, разам з літаратурай, жывапісам, напрыклад, аб вайне (якія зрабілі вядомымі на ўвесь свет імёны В. Быкава, А. Адамовіча, М. Савіцкага), мы з агульнай згоды ўводзілі фільмы В. Турава «Я родам з дзяцінства» і «Праз могілкі», В. Дашука і С. Алексіевіч «У вайны не жаночае аблічча», Э. Клімава і А. Адамовіча «Ідзі і глядзі...»**

**У гэтым, лічу і цяпер, не было хітрыкаў. Вайна ўвайшла ў культурны генафонд нацыі праз філасофскае асэнсаванне сродкамі мастацтва цэласнасці чалавека і яго ўнутранага свету перад трагедыйным выбарам жыцця і смерці. У гэтай адвечнай катэгорыі беларускі генатып праявіўся ў лепшых гуманістычных традыцыях сваёй гістарычнай завершанасці.**

**З кантэксту нацыянальных прыярытэтаў нельга выкінуць і фільмы - экранізацыі па прозе І. С. Тургенева: В. Турава «Жыццё і смерць двараніна Чартапханава», В. Рубінчыка «Гамлет Шчыгроўскага павета», «Зацішша» В. Чацверыкова, «Бацькі і дзеці» В. Нікіфарава.**

ПРАБЛЕМА ГАРМАНІЗАЦЫІ беларускага з агульначалавечымі ідэаламі, перад якой кінематограф, як, між іншым, і нацыянальная культура ў цэлым, апынуліся сёння, патрабуе значна больш тонкіх падыходаў, чым тыя, якімі дагэтуль мы валодалі. І калі проста канстатаваць адсутнасць фільмаў аб гісторыі больш далёкай, чым рэвалюцыя ці вайна, аб дзеячах, якія стаялі ля вытокаў беларускай дзяржаўнасці і культуры, то задача робіцца нескладанай настолькі, наколькі нацыянальнае кіно можна зрабіць этнаграфічным.

«Нам трэба пачынаць з нуля!» — у гэтым нацыянальным усплёску, які перакочваўся ў вуснах многіх прадстаўнікоў мастацкай інтэлігенцыі, чуецца штосьці да болю знаёмае — «разрушим до основанья, а затем...»

Дакранаючыся да найскладанай матэрыі быцця нацыянальнага духу ў формах культурнай жыццядзейнасці, уключаючы і форму кінематаграфічную, разумееш, які мізэрны плён нашага адукаванага розуму ў гэтай галіне. Падбіраючы крошкі з чужога стала, здзіўляемся, як гэта ў Грузіі кіно нарадзілася, працягваецца і застаецца нацыянальным, ажно да існавання музея яго гісторыі, у які наведнікі ходзяць гэтаксама, як і ў любы іншы «прыстойны» музей. Хоць калі акінуць крытычным поглядам змест і эстэтычную якасць гэтага мастацтва, то з вышыні сённяшняга дня трэба прызнаць, што да «Пакаяння» там між іншым было і «Падзенне Берліна».

Культура, у адрозненне ад

огул, кінакрытыкі ў прыватнасці. Трэба мець на ўвазе, што, як і М. Мушынскі, мы не аб'ядноўвалі крытыку з навукай аб літаратуры і мастацтве. Як грамадская з'ява крытыка можа здзейсніцца пры ўмове, калі дзейнічае сістэма, грунтуецца на пэўных прынцыпах, прафесійным узроўні і мае «зваротную сувязь». Зразумела, пры наяўнасці трыбуны, рэальных магчымасцей ажыццяўляць сваё прызначэнне і... прадстаўнікоў. А што ў наяўнасці? Сістэмы публікацый пра кінематограф няма. Перыядычны друк усіх узроўняў месяцамі, бывае — гадамі абыходзіцца без аналітычных публікацый пра кінамастацтва. Спецыялізаванае выданне ў рэспубліцы адно — часопіс «Мастацтва Беларусі»; магчымасці яго абмежаваныя з-за «гібрыднага» характару (плошчу «дзеляць» выяўленчае мастацтва, тэатр, народнае мастацтва, музыка і г. д.) і неаператыўнасці. Літаратурныя часопісы добра калі раз на год пусцяць да сябе «нешта пра кіно». Больш як дзесяць гадоў кінакрытыкі пры падтрымцы СК БССР дамагаюцца пераўтварэння інфармацыйна-рэкламнага бюлетэня «На экранах Беларусі» ў крытычна-публіцыстычны часопіс. Колькі за гэты час узнікла новых выданняў, як пашырыліся старыя, а гэтае — ні з месца!

Я не хачу апраўдваць нас, крытыкаў. Пішам мы рэдка, не заўсёды так, каб нашы выступленні мелі водгук, каб да нашай думкі прыслухаліся. І доказнымі бываем не заўсёды, абмяжоўваемся агульнымі ацэнкамі. Але ж я ведаю і тое, як цяжка пісаць пра беларускае кіно: малацікавыя, без мастацкага патэнцыялу стужкі не натхняюць (а яны складаюць асноўную прадукцыю «Беларусьфільма»). Дапусцім, што з'явілася магчымасць рэцэнзаваць кожны новы фільм, аналізаваць рэпертуар пракату. Ды хто будзе гэта рабіць? Вопытных крытыкаў у нас вельмі мала (гільдыя кінакрытыкі СК БССР складаецца ўсяго з васьмі чалавек плюс восем-дзесяць членаў яе актыву), прытоку новых сіл няма, бо занятак не прэстыжны. Прафесіі нідзе не вучаць. А калі ў працэсе навучання на журфаку БДУ хтосьці выявіць схільнасці да крытыкі, гэта не бярэцца пад увагу пры размеркаванні на работу.

З улікам такога становішча з крытыкай (не адно кінематаграфічнай), ёсць прапанова арганізаваць на базе журфака БДУ або БДТМІ падрыхтоўку кадраў прапагандыстаў і аналітыкаў мастацтва. Можна для эксперыменту ўзяць некалькі абітурыентаў, рыхтаваць іх па спецыяльнай праграме, а можна наладзіць перападрыхтоўку журналістаў, якія ўжо праспрабавалі пісаць пра кінематограф, тэлебачанне, іншыя віды мастацтва.

НЕ ТРЭБА ДУМАЦЬ, што ўсё сказанае вышэй, адкрылася толькі пад час гульні. Канфлікты і драмы нашага кіно былі відочнымі, пра іх і мне даводзілася пісаць, і гаварылася на з'ездах і пленумах.

Завяршыць размову мне ўсё ж не хацелася б на песімістычнай ноце. Былі ж на шляху беларускага кіно прыкметныя ўзлёты. Ёсць таленавітыя рэжысёры, аператары, мастакі, нескарыстаныя рэзервы, намеры павысіць каэфіцыент творчасці. Калі б усе гэтыя магчымасці скіраваць на галоўную мэту, — кінематограф змог бы не толькі патрапіць у «нацыянальны кантэкст», але і садзейнічаць яго існаванню.

**Ефрасіння БОНДАРАВА.**

палітыкі, ідэалогіі, эканомікі, не можа знянацку апынуцца ў тупіку. Яе, уласна кажучы, як і гісторыю, немагчыма паправіць: вось тут, дапусцім, адбылася памылачка, і цяпер адкрыем «зялёную» вуліцу для паўнацэннага развіцця нацыянальнага. Мы кепска вучымся ў гуманістаў мінулага. Здаецца, Дзідро пісаў аб тым, што трэба прымаць эпоху і грамадства як данасць—каб быў прадмет для ўдасканалення.

Баюся, што «дзелавыя гульні» паставілі пытанняў значна больш, чым вырашылі. І, не стамляючыся паўтараць, што адмоўны вынік ёсць таксама вынік, задумаемся над тым, чаму і ў час найскладанага перыяду свайго жыцця, калі натуральная для злому часоў пераацэнка каштоўнасцей кінула кіно на эканамічную выжывальнасць (нібыта гаворка ідзе аб вытворчасці чаравікаў або пральнага парашка), грамадскасць не падтрымала яго...

ПРЫЧЫНА АДЛУЧАНАСЦІ ад праблем нацыянальнага кінематографа з боку грамадазнаўцаў, філосафаў, псіхолагаў, іншых носьбітаў навуковага ведання ляжыць на паверхні. Утрыманскае, спажывецкае стаўленне да «самага дэмакратычнага і масавага» спосабу продажу вольнага часу ў выглядзе кінапрадукта не можа знікнуць у адначассе, як хвіліннае насланнё. Рыначная стыхія, далёкая ў нашых умовах ад паняцця «эканамічны рынак», ужо цяпер уводзіць на ўжытак нашых кінематаграфістаў рэчы, не вельмі сумяшчальныя з мастацтвам. Грошы, спонсары, менеджэры — бедны мастак, які марыць пра мільён пунсовых ружаў!

Асацыіруючы гэтыя праблемы з тэмай мінулага семінара, выяўляеш, што мы зусім не рушылі далей за рэкамендацыі ставіць фільмы пра гістарычнае мінулае, пра культурныя традыцыі, вычарпаўшы гэтым канструктыўны патэнцыял. Ці ў тэматыцы справа, калі кінематограф павінен праўжыць этап самавызначэння ў свеце, які абнаўляецца, з яго ўскладненымі грамадскімі камунікацыямі, са зменёнай сістэмай сацыякультурных каштоўнасных арыентацый. А каб пражыць, патрэбны не толькі грошы, але і час, што закумулюе ў сабе новыя адчуванні, новыя ідэі, збярэ новых людзей, якія выявяць гэты час у абліччы свайго пакалення.

Пад час дыскусій гучала думка гісторыка Ключэўскага: штосьці новае ў грамадскім жыцці ці палітыцы можа даць толькі трэцяе, нябітае пакаленне. Нам, прагматыкам, хацелася б паскорыць ходу падзей. Такім чынам, на мой погляд, «дзелавая гульня» можа разглядацца як адзін з магчымых інструментаў гэтага паскарэння.

Ініцыятыва рэспубліканскага Саюза кінематаграфістаў у гэтым ракурсе ўспрымаецца як першы, але... самадзейны крок. А кіно ўжо закаштавала дастаткова ад самадзейнасці. Навуковая канцэпцыя развіцця нацыянальнага кінематографа —не справа толькі вузкага кінематаграфічнага кола. Навука не ў абстракцыях і высокіх эмпірыях, а ў канкрэтных даследаваннях прыкладнога і абагульняючага характару — такі шлях бачыцца ў збліжэнні з кінематаграфічнай дзейнасцю. З вывучэннем папулярнасці беларускіх фільмаў, з прыкладам уплыву экраннага мастацтва на светаразуменне асобных груп, пластоў, фарміраванняў, з улікам функцыянавання нашага кінематографа ў развітай сістэме масавых камунікацый.

...Марачы аб адраджэнні нацыянальнай беларускай духоўнасці ў формах экраннай вобразнасці, не будзем манілавымі. У рэшце рэшт нашы сённяшнія ўяўленні прадыктаваны хутчэй інтуіцыяй, чым дакладным веданнем, чаго ж мы хочам — сапраўднага мастацтва з высокім узроўнем прафесіяналізму альбо выканання чарговай кампаніі ў водгуку на падзейнасць. З апошнім «пагуляць» можна. А з першым — трэба працаваць і думаць. Думаць і працаваць.

**Ніна ФРАЛЬЦОВА.**

## *Музыка*

«СКРЫПКА — небяспечны інструмент. На ім нельга іграць няблага ці проста добра, як на раялі. На скрыпцы трэба іграць цудоўна, толькі тады ігра можа прынесці асалоду», — гэтыя словы І. Ільфа і Я. Пятрова міжволі ўспомніліся на канцэрце камернага калектыву з Масквы «Вівальдзі-аркестр».

# ВЯРТАННЕ ВІВАЛЬДЗІ

Расказваць пра чыёсьці выступленне заўсёды складана. І найперш таму, што ніякія словы, нават самыя выразныя і вобразныя, не заменяць таго пачуцця, якое з'яўляецца ў канцэртнай зале разам з гукамі музыкі. Асветленая сцэна, артысткі ў паўсвецкай-паўманаскай вопратцы, строгі чорна-белы колер, светлая музыка, сцішаныя слухачы, якія адкрываюць для сябе Антоніа Вівальдзі...

XX стагоддзе вярнула Вівальдзі з нябыту, абвясціла яго найвялікшым музыкантам. Чаму? Ці не таму, што ў музыцы яго жыве дзівосная напеўнасць, такая блізкая імкліваму маладому парыванню, разняволенай мары, нарэшце, палёту, у якім чалавек лунае сёння над Зямлёй? Ці таму Вівальдзі вярнуўся да нас, што і наша стагоддзе прагне яснай і светлай музыкі — музыкі ў нетаропкіх рытмах сэрца?

Безумоўна, на гэты канцэрт многіх завабіла імя: «Вівальдзі-аркестр». Бо музыка, прасякнутая народным духам, моцнымі і глыбокімі пачуццямі, зразумелая кожнаму чалавеку, незалежна ад таго, на якой мове ён гаворыць. Аднак рэпертуар калектыву (а ён існуе толькі з красавіка 1989 года) складаецца ўжо з 6 праграм. Гэта творы не толькі А. Вівальдзі, але і В. Моцарта, Р. Штрауса, П. Макартні, мона-опера Б. Брытэна «Федра» і многае, многае іншае.

Ідэя стварэння такога незвычайнага калектыву — іграюць у ім толькі жанчыны — належыць Святлане Бязроднай. Цікава, што А. Вівальдзі, калі быў абатам аднаго з жаночых манастыроў, стварыў у ім камерны аркестр з дзяўчынак — паслушніц і манашак і спецыяльна для іх пісаў творы. Дык вось, С. Бязродная адшукала ноты многіх дасюль невядомых для савецкіх слухачоў твораў Вівальдзі і адрадзіла саму абстаноўку выканання гэтай музыкі. Усё прадумана да дробязей — нават касцюмы. (Яны пашыты маскоўскім мадэльерам А. Шушуновым, які супрацоўнічае з вядомай французскай фірмай «П'ер Кардэн»). Але самае галоўнае — гэта тонкае адчуванне эпохі ў музыцы. Мэ-



«Вівальдзі-аркестр» у Полацкім Сафійскім саборы.
Фота А. МАРЦІНКЕВІЧА.

та мастацкага кіраўніка «Вівальдзі-аркестра» не проста адрадзіць музыку Антоніа Вівальдзі, а і данесці да слухача манеру выканання XVIII стагоддзя. Таму ўсе павольныя часткі канцэртаў цыкла «Поры года» напоўнены яе імправізацыямі. Скрыпка, быццам жывы чалавечы голас, і «распавядае», і «скардзіцца», заварожваючы цеплынёй тэмбра і пранікнёнасцю.

Музыканты «Вівальдзі-аркестра» — гэта, у асноўным, студэнткі Маскоўскай кансерваторыі, ёсць лаўрэаты ўсесаюзных, усерасійскіх і міжнародных конкурсаў. Здаўна лічаць, што жаночы калектыў у псіхалагічным плане досыць складаны. Такіх праблем у «Вівальдзі-аркестры» не адчуваецца, тут заняты творчасцю. Нагогул, С. Бязродная сцвярджае: «Смеласць жаночая ў шмат разоў перавышае смеласць мужчынскую, ды і ў адносінах успрымальнасці, артыстызму можна сказаць тое ж самае». Ва ўсякім разе з'яўленне такога адметнага калектыву сустрэта з сапраўднай цікавасцю, пра што сведчаць і запрашэнне на маскоўскі фестываль «Руская зіма», і планаваная Дзяржканцэртам паездка ў Італію, на радзіму Вівальдзі.

...У зале ў гэты вечар сабраліся прадстаўнікі розных прафесій і ўсіх узроставых груп. Самым юным слухачом была трохгадовая Алеся, якая прасядзела ўвесь канцэрт на каленях у бабулі і амаль не зводзіла вачэй са сцэны. Цяжка было чакаць ад такой малой столькі шчырай цікавасці да музыкі. Цяжка паверыць, але Алеся ўжо мае невялічкі вопыт слухача. Ёй падабаецца бываць на канцэртах і падабаецца музыка, якую яна слухае з бацькамі ці з бабуляй.

Малады калектыў пабываў не толькі ў Віцебску. На яго гастрольных маршрутах былі Полацк, Мінск, Гомель і Гродна.

**Ю. СУСЕД.**

г. Віцебск.

# УСЁ Ж ЁН АДБЫЎСЯ...

**Мне думаецца, што асэнсаванне значнасці гэтай знешне непрыкметнай падзеі адбудзецца пазней, і І Рэспубліканскі фестываль выканаўцаў джазавай музыкі будзе яшчэ неаднойчы згаданы і ў прамовах, і ў друку, і ў энцыклапедычных выданнях. Арганізатары фестывалю — Музычнае таварыства БССР, ЦК ЛКСМБ і Саюз кампазітараў Беларусі пры непасрэднай дапамозе Віцебскага цэнтра культуры правялі акцыю, якая, уласна кажучы, напрошвалася даўно. Тым не менш, рэспубліканскі джаз-фестываль, зняўшы шэраг пытанняў, высунуў на першы план мноства іншых. На некаторыя з іх я і паспрабаваў сам сабе адказаць.**

**КАМУ ЁН БЫЎ ПАТРЭБНЫ, ГЭТЫ ФЕСТЫВАЛЬ?**

**Перш за ўсё — самім музыкантам, выканаўцам прафесійным і аматарам, якія маюць магчымасць выконваць тую музыку, да якой горнуцца іхнія сэрцы і душы. Тое, што ў Віцебску не было антаганізму паміж прафесіяналамі і аматарамі, гаворыць пра агульнасць інтарэсаў музыкантаў гэтага жанру, якія на фестывалі вучылі і вучыліся адначасова. Фестываль быў патрэбны спецыялістам, зацікаўленым у знаёмстве з новымі для іх імёнамі ды сродкамі музычнага выказвання. Такіх адкрыццяў у Віцебску адбылося даволі шмат: біг-бэнд Віцебскага цэнтра культуры, група «Студыя» з Баранавічаў, трыо У. Жданука з Гродна, М. Сапожнікаў (флейта, Мінск), І. Барысаў (гітара, Мінск). Фестываль, нарэшце, быў патрэбны ўсёй рэспубліцы, таму што ён адлюстраваў стан жанру. І хоць нагоды для значнага аптымізму пакуль няма, фестываль, думаю, зробіцца адным з дзейсных фактараў, якія паўплываюць на развіццё тых жанраў музыкі, якія па нейкай нядобрай традыцыі яшчэ называюць «лёгкімі».**

**КАМУ ЁН БЫЎ НЕ ПАТРЭБНЫ, ГЭТЫ ФЕСТЫВАЛЬ?**

**Магчыма, гэтае пытанне і не зусім слушнае, бо цяпер за джаз нібыта і не караюць, як некалі. Таму ніхто, бадай, сёння ў Беларусі і не скажа, што джаз — гэта «ідэалагічна шкодная музыка». Змаганне супраць дыверсій «заходніх спеццэнтраў» прывяло да таго, што зрабіўся дужа адчувальным дэфіцыт на дасведчаных выканаўцаў эстраднай музыкі. Таму цяпер ніхто ўголас не закрычыць, нібыта джаз — рэч шкодная і непатрэбная.**

**А вось адмахнуліся ад фестывалю многія.**

**Перш-наперш — Міністэрства культуры БССР, якое адразу ж адмовілася ад удзелу ў арганізацыі і правядзенні фестывалю. Што ж, з вышынь міністэрскіх паверхаў, трэба думаць, лепш бачныя дасягненні нашай эстрады...**

**Не патрэбны быў фестываль і музычным вучылішчам рэспублікі, дзе адкрыты эстрадныя аддзяленні. Ім — такое ўражанне — проста няма калі апускацца да ўдзелу ў нейкім там фестывалі, бо на парадку дня — падрыхтоўка «зорак» для стадыёнаў і іншых кааператыўных рабункаў насельніцтва. «Самі з вусамі» — гэтая, здавалася б, характэрная сітуацыя ў музвучылішчах можа хутка змяніцца. І тады на першы план выйдзе іншае прыслоўе: «Застацца з носам».**

**Студэнты ж Мінскага інстытута культуры, здаецца, ужо і не дбаюць пра залікі і экзамены. Іх галоўны з педагогамі клопат — заробкі па лініі студэнцкай філармоніі. А фестываль... Не для іх гэта, перараслі ўжо...**

**Саюз кампазітараў Беларусі, падпісаўшы пастанову аб правядзенні фестывалю і закупіўшы прыз, пра ўсё забыўся. Ніхто з кампазітараў у Віцебску не паказаўся. Не прагучалі, натуральна, і напісаныя імі творы. Для каго ж яны тады пішуць, калі творы кампазітараў для выканаўцаў зусім не цікавыя?**

**Дарэчы, і Беларускі Дом грампласцінкі мог бы праявіць аператыўнасць. Наракаючы на адсутнасць у Беларусі па-сучаснаму аснашчанай студыі, БДГ у той жа час не выкарыстаў выдатную магчымасць запісу на высакаякаснай апаратуры канцэртаў гэтага фестывалю для таго, каб выдаць спецыяльны дыск. Ці, можа, рынак перанасычаны пласцінкамі з запісамі беларускіх выканаўцаў джазавай музыкі?**

**І НА ЗАКАНЧЭННЕ — АБ ПРЫЗЁРАХ ФЕСТЫВАЛЮ.**

**Прызы Музычнага таварыства БССР «Лепшаму калектыву» атрымалі квартэт І. Сафонава з Мінска і біг-бэнд з Віцебска (кіраўнік А. Яскін). Прыз ЦК ЛКСМБ «За арыгінальную інтэрпрэтацыю класічнай джазавай тэмы» дастаўся дыксіленду «Рэнесанс» з Мінска (кіраўнік Г. Крэмер). Прыз Беларускага Дома грампласцінкі «За ўдалы дэбют» быў уручаны групе «Студыя» з Баранавічаў (кіраўнік Ф. Жыляк). Аргкамітэт адзначыў прызам «За творчы пошук» трыо У. Жданука з Гродна. Нарэшце, прыз Саюза кампазітараў Беларусі «За лепшую аўтарскую кампазіцыю» атрымаў А. Крыжанюк з Віцебска — лідэр джаз-квінтэта.**

**Д. ПАДБЯРЭЗСКІ.**

*Старонкі ўспамінаў*

Сара ЧАРНУШЭВІЧ

# «...СОНЦА ПАСЛЯ БУРЫ»

Летам 1938 года мы разам з Міколам і нашым маленькім сынам Артурам прыехалі ў Дом творчасці ў Пухавічах. Да аднапавярховага будынка вялі доўгія цяністыя прысады. Вялікі сад падыходзіў да бярозавага гаю, побач якога працякала невялічкая рэчка Цітаўка.

На лета там пасяляліся многія пісьменнікі, некаторыя са сваімі сем'ямі: Змітрок Бядуля, Кандрат Крапіва, Міхась Лынькоў, Пятрусь Броўка, Аркадзь Куляшоў, Алесь Якімовіч, Віталь Вольскі і іншыя. Аднаго разу на тэрыторыю Дома заехала легкавая аўтамашына французскай маркі «шэўралє». Тады адзіная машына на ўвесь Саюз пісьменнікаў была толькі ў Янкі Купалы. Гэта быў падарунак урада да 50-годдзя паэта. З яе выйшлі Янка Купала, Якуб Колас і госць з Таджыкістана народны паэт Абульхасім Лахуці. Купала пазнаёміў госця з прысутнымі. Той весела, з гумарам прывітаўся. Цікавіўся, як жывуць пісьменнікі і іх сем'і, як тут працуецца, быў вельмі гаваркі.

Вечарам, каб ушанаваць госця, усе жыхары Дома сабраліся на палянцы каля вогнішча. П. Броўка, П. Глебка, А. Куляшоў чыталі вершы. Мікола прачытаў у сваім перакладзе з таджыкскай верш Лахуці «Янка Купала». Так, магчыма, упершыню госць пазнаёміўся са сваімі вершамі на беларускай мове. Янка Купала сядзеў каля вогнішча, злёгку абапіраючыся на сваю неразлучную «крывульку». Ён быў сумны, задумлівы і шмат курыў. Якуб Колас таксама маўчаў. Час той быў вельмі трывожны. Мінуў 1937 год. Ішлі масавыя арышты. Ужо былі рэпрэсіраваны Ц. Гартны, П. Галавач, І. Харык, Т. Кляшторны, С. Шушкевіч, С. Баранавых, Ю. Лявонны, М. Чарот і многія іншыя. Не мінуў гэты лёс і некаторых жонак. Былі арыштаваны жонка Ц. Гартнага і дачка Галя, Ніна Фёдараўна Галавач, Яніна Кляшторная. Дзяцей Яніны забралі ў дзіцячы дом, а ў хуткім часе яна нарадзіла яшчэ дзяўчынку — Маю, якая разам з маці апынулася ў ссылцы. Дзіну Харык разлучылі з двума маленькімі сынамі, яна іх больш ніколі не ўбачыла. Не стала сярод нас блізкіх сяброў, якія былі частымі гасцямі ў нашым мінскім доме — У. Хадыкі, В. Каваля, А. Дудара, Б. Мікуліча, А. Звонака, нашага суседа літоўскага пісьменніка Б. Паўлюкевічуса. Быў асуджаны і адбываў ссылку старэйшы брат Міколы паэт Нічыпар Чарнушэвіч.

Аднойчы ў гарачы ліпеньскі дзень група мужчын на чале з Лыньковым сабралася на рыбалку. Жанчыны сядзелі ў цяньку на лаўцы, побач у пяску корпаліся дзеці. Нечакана пад'ехала машына, з яе выйшлі трое ў цывільным. Адзін падышоў да нас, спытаўся, дзе ён можа ўбачыць Александровіча. Непадалёк сядзеў сын Андрэя Слаўка і чытаў кніжку.

— Слава, бяжы да рэчкі, пашукай тату і скажы, што да яго з Мінска прыехалі госці, — гукнула я хлопчыка.

Хутка прыйшоў Александровіч, ён быў босы, штаны закасаны вышэй калена. Праз плячо трымаў вуду, у руцэ—слоік з вадой, дзе плавалі дробныя рыбкі. Насустрач яму выйшаў «госць» і павёў яго да машыны, дзверцы якой былі адчынены. Прыселі на лаўку. Незнаёмы дастаў з партфеля паперу, нешта прачытаў Александровічу. Няцяжка было здагадацца, што гэта быў ордэр на арышт. Потым яго хутка ўпапхнулі ў машыну. На дарозе каля лаўкі засталіся вуда і слоік з жывымі рыбкамі.

Мінуў месяц пасля арышту Александровіча. Аднойчы вечарам, седзячы на ганку, К. Чорны, З. Бядуля, Э. Самуйлёнак і Мікола гутарылі, аб нечым спрачаліся, смяяліся, жартавалі. Самуйлёнак хрыплым голасам (ён тады быў ужо вельмі хворы) дзяліўся ўражаннямі ад спектакля, які ўчора бачыў у Мінску. Раптам іх увагу прыцягнулі людзі, што былі тут ужо неаднойчы. Яны спакойна прагульваліся, часам спыняліся.

— Глядзіце, ізноў прыйшлі малойчыкі, будуць абгрываць нас у більярд, — сказаў Эдуард.

А мой Мікола з нейкай горкай сумнай усмешкай, нібы жартам вымавіў:

— Ну, хлопчыкі, трымайцеся, чыя будзе зараз чарга?

Усе змоўклі. Потым Змітрок Бядуля ўстаў са свайго месца, паглядзеў пільна на ўсіх прысутных і ціхім панікнёным голасам, амаль шэптам сказаў:

— Божухна, што гэта робіцца, гэта ж ціхая вайна!..

Гэта здарылася 8 жніўня. Акно нашага пакоя было расчынена. Праходзячы міма яго, я крыху затрымалася. Было чуваць, як Мікола глухаватым голасам чытаў уголас перакладзеныя фрагменты паэмы Шата Руставелі «Віцязь у тыгравай шкуры». Каб не перашкаджаць, я адышлася і паклікала дзяцей, што гулялі пад вокнамі. Калі вярнулася дадому, пачула за зачыненымі дзвярыма незнаёмыя мужчынскія галасы. Дзверы адчыніў чалавек у форме НКУС, з ім былі яшчэ двое. Адзін сядзеў за пісьмовым сталом і ўважліва праглядваў, перагортваў зусім свежы рукапіс перакладу. Убок былі адкладзены нейкія паперы, кніжка Айседоры Дункан «Успаміны пра Ясеніна», «Песні» Беранжэ. І сярод гэтай «крамолы» я ўбачыла свае малюнкі крыжыкам, па якіх я тады вышывала. Арыштаваны быў і пераклад «Віцязя ў тыгравай шкуры». Мікола сядзеў у крэсле. Выглядаў ён вельмі стомлена. З сумам паглядзеў на мяне. «Госці» акуратна ўпакавалі ў свае партфелі ўсё, што адабралі пры вобыску. Той, што сядзеў за сталом, з грукатам падняўся, падышоў бліжэй да мужа, гучным голасам загадаў: «Устаць! Рукі за спіну!» Яго павялі па доўгім калідоры. Нібыта скамянеўшы, глядзела я ўслед машыне... Потым зайшоў дырэктар Дома творчасці Левін і параіў мне неадкладна ехаць у Мінск.

Перш чым пайсці дадому, збегала да сяброўкі, з якой мы выхоўваліся калісьці ў дзіцячым доме. Расказала ёй пра ўсё, папрасіла пабыць у мяне гэтую ноч. Яна згадзілася.

— Не плач, разбяруцца і калі невінаваты — выпусцяць.

Было ўжо за поўнач. Раптам пачуўся моцны стук у дзверы. На лесвічнай пляцоўцы былі чутны цяжкія крокі. Потым мужчынскі голас прамовіў:

— Адчыніце, зараз жа адчыніце, вобыск!

Перада мною стаялі трое мужчын, адзін быў той самы, у форме НКУС. Не паказваючы дакумента на права вобыску, яны, як гаспадары, ператтрэслі ўсё адзенне, вывернулі кішэні. Зазірнулі пад шафу і ложак, але нічога, акрамя мячыка і дзіцячага пісталета, не знайшлі. Хутка перайшлі ў другі пакой, спыніліся каля кніжных паліц. Той самы, у форме, сеў за пісьмовы стол, выцягнуў з шуфляды аркушы, рукапісы і іншыя паперы. Двое корпаліся на кніжных паліцах. Спачатку яны старанна праглядвалі, перагортвалі кожную старонку. Некаторыя кніжкі адкладвалі ў асобны стос. Тут ужо ляжалі некалькі зборнікаў С. Ясеніна, кнігі Гумілёва, Буніна, Купрына, зборнікі з аўтографамі М. Чарота, Ц. Гартнага, П. Галавача, У. Хадыкі, В. Каваля, А. Вольнага, С. Баранавых, Т. Кляшторнага, А. Звонака. Адзін з іх забраўся па лесвіцы да самых верхніх паліц, дзе стаялі творы У. І. Леніна, Карла Маркса, Фрыдрыха Энгельса, І. Сталіна і іншая палітычная літаратура. У гэтых кнігах не праглядвалі ўжо так старанна кожную старонку, бралі іх у ахапак і скідвалі зверху на падлогу, пакуль не ачысцілі ўсе паліцы наверсе. Разгром быў поўны. Я ціха сказала:

— *Што вы робіце? Гэта ж метад фашыстаў!*

Той, што сядзеў, стукнуў кулаком па стале, падышоў да мяне, выкрыкнуў:

— Яшчэ адно слова—будзеш за кратамі!

І зноў сеў за стол. Убачыў у шуфлядзе самапіску з залатым пяром. Узяўшы ў рукі, доўга разглядаў яе, мацаў пальцам пяро, спрабаваў пісаць, потым паклаў у верхнюю кішэню кіцеля.

Гэта была рэліквія мужа. У маі 1935 года па ініцыятыве Максіма Горкага Грузія і Беларусь абмяняліся пісьменніцкімі дэлегацыямі. У Тбілісі тады прыбылі В. Вольскі, Б. Мікуліч, Э. Самуйлёнак, Мікола і польскі пісьменнік В. Кавальскі, які жыў у Мінску. Паэт Сандра Эулі ў знак сяброўства падарыў мужу гэту самапіску. І Мікола захоўваў яе як памяць пра Грузію і прасябра.

Недзе пад раніцу вобыск скончыўся, «энкэвэдзісты» падабралі ўсе «неабходныя ўлікі» і накіраваліся да выхаду. На дзвярной ручцы вісела мая сумка. Я працягнула за ёй руку, але мяне апярэдзіў той, што «працаваў» за сталом. Ён адкрыў яе, дастаў дзве ашчадныя кніжкі, маю і Міколаву, пералічыў грошы, якія былі ў сумцы, пераклаў іх у свой партфель. Дзверы кабінета замкнулі на ключ, апячаталі дзвюма вялікімі чырвонымі сургучнымі пячаткамі. Пазней я даведалася, што той, каржакаваты, што забраў сабе самапіску, быў следчы Венікавецкі, які вёў справу мужа.

У той час я працавала ў тэатры юнага гледача. Была ў адпачынку, бо мела малога сына. Давялося вярнуцца на работу. Тэатр тады месціўся ў былым чырвоным касцёле каля Дома ўрада. Звярнулася да дырэктара тэатра Шустэра. Пачула адказ:

— Вярнуць вас у тэатр не магу. Шукайце сабе іншую работу...

Пры нашай размове прысутнічаў народны артыст рэспублікі, рэжысёр, цудоўны педагог і чалавек Е. А. Міровіч. Ён якраз рыхтаваў спектакль «Казка пра цара Салтана» (пераклад на беларускую мову быў зроблены Міколам). Толькі дзякуючы яго клопату, я вярнулася ў калектыў.

Дазнаўшыся, што на Савецкай вуліцы знаходзіцца даведачная НКУС, я з надзеяй пайшла туды. Увайшоўшы, на сцяне ўбачыла вялізны партрэт Яжова. Шмат людзей чакалі прыёму да дзяжурнага. Быць прынятай у гэты дзень не было ніякай надзеі. Чаргу займалі з вечара. Збіраліся ў пад'ездах, складалі спісы чаргі на прыём, перадавалі іх з рук у рукі. Так дзяжурылі ўсю ноч, да раніцы. Толькі назаўтра прыйшла мая чарга. У кабінеце за сталом сядзеў малады чалавек у форме. Я прасіла дазволу перадаць Міколу цёплае адзенне.

— Ніякіх цёплых рэчаў не трэба. У камеры вельмі цёпла, нават горача. І наогул усякія перадачы забаронены.

Падняўся, прайшоўся па кабінеце, зноў сеў на месца, уважліва на мяне паглядзеў, на твары з'явілася нейкая саладжавая ўсмешка.

— Слухайце, — сказаў ён. — Кіньце вы ўсе гэтыя марныя клопаты. Пастарайцеся наладзіць сваё жыццё. Вашага мужа абвінавачваюць у найцяжэйшых злачынствах супраць Савецкай дзяржавы. Ён будзе сурова пакараны.

Не стала тлумачыць яму ўвесь абсурд хлусні, не стала даводзіць, што муж сумленны чалавек і камуніст. Не памятаю, як выйшла з кабінета, мяне трэсла, як у ліхаманцы.

З часу, як арыштавалі мужа, мяне амаль ніхто не наведваў. Ужо быў кастрычнік. Неяк раніцай, збіраючыся на работу, я пачула, як нехта стукае ў дзверы. Стук паўтарыўся. Ён быў нясмелы. Калі адчыніла дзверы, убачыла Рэвеку — жонку Кузьмы Чорнага. Яна моўчкі ўвайшла ў пакой і апусцілася на крэсла. Я села каля яе, мы абедзве доўга маўчалі.

— Рэня, што здарылася?

На маё пытанне яна ціха, з дрыжыкамі ў голасе адказала:

— Няма Кузьмы, няма яго. Учора ўвечары пайшоў у аптэку ўзяць для мяне лекі і не вярнуўся...

Праз два месяцы я зноў пайшла ў тую самую прыёмную за даведкай. Калі ўвайшла, здзівілася: партрэта Яжова на сцяне не было.

На гэты раз мяне прыняў іншы супрацоўнік. Ён дастаў папку, разгарнуў і нешта там доўга чытаў, падкрэсліў чырвоным алоўкам некалькі радкоў і накіраваў мяне да пракурора. Пракуратура БССР месцілася ў Доме ўрада на шостым паверсе. Там таксама была доўгая чарга.

Прыём у гэты дзень вялі пракуроры Аляксееў і Гінзбург. Усе імкнуліся папасці да Аляксеева, бо пра Гінзбурга ішла слава як пра дэспата, грубага, хамаватага чалавека.

Мне «пашанцавала». Справа знаходзілася ў Аляксеева. На стале ляжала некалькі папак. Ён узяў адну з іх. Мне ўдалося прачытаць на ёй: «Справа Чарнушэвіча — Хведаровіча М. Ф.». Нумар не разгледзела. Раскрыўшы папку, ён перагарнуў некалькі старонак. Потым даў мне «дакладны» адказ: «Знаходзіцца ў мінскай турме. Следства працягваецца. Даведка даціравана такім-та днём. На гэтым усё».

У той самы дзень стала вядома, што Яжоў вызвалены ад пасады наркома НКУС, замест яго прызначаны Берыя.

У канцы 1938 і пачатку 1939 года былі нечакана вызвалены многія зняволеныя. Справы іх былі спынены з прычыны «адсутнасці складу злачынства».

Тады ж у 1939 годзе быў вызвалены і Кузьма Чорны, які праседзеў у турме восем месяцаў, з іх шэсць у адзіночнай камеры.

На наступны дзень, пасля таго як яго выпусцілі, мы сустрэліся. Цяжка было яго пазнаць. Гэта быў зусім не той Кузьма, якога мы ведалі з Міколам да арышту. Раней ён часта бываў у нас, і я з вялікай цікавасцю заўсёды слухала яго вобразную капыльскую гаворку, густа перасыпаную гумарам. А цяпер на твары яго чыталіся боль і страх.

Неяк у начы — трывожны стук у дзверы. Пытаюся: «Хто?» Шырока расчыняю дзверы. На парозе высокі хлопец у абадранай гімнасцёрцы. Пераступіў парог, пачула знаёмы голас: «Што, Сарка, не пазнаеш? Гэта ж я, Саша, бачыш—жывы!» З цяжкасцю пазнала малодшага брата Міколы. Чалавек ён, як кажуць, быў «завадны», трохі безалаберны, хоць і вельмі добры. У Мінску з'яўляўся час ад часу, жыў з сям'ёй у Асіповічах, працаваў фельчарам у ветлячэбніцы. Коні былі яго галоўным занятакам, мог днямі прападаць на стайні. За што і трапіў пазней у турму: па ілжывым даносе яго абвінавацілі ў тым, што ён нібыта наўмысна рабіў шкодныя прышчэпкі.

— Гады! Фашысты! Што з людзьмі робяць!

Скінуўшы з сябе гімнасцёрку, павярнуўся да мяне спіной. Я ўбачыла яшчэ свежыя папярочныя рубцы.

— Саша, няўжо так цябе білі?!

— Яшчэ не так білі! Але я не падпісаў іхнюю хлусню. Вось бачыш — выпусцілі. А за братоў буду помсціць.

Апошні раз бачылася з Сашам незадоўга да пачатку вайны. Загінуў ён у красавіку сорак пятага пад Берлінам.

А ад Міколы вестак усё не было.

Нарэшце даведалася, што следства скончана, справа перададзена ў абласны суд. Будынак суда месціўся тады пад аркай мінскай ратушы на плошчы Свабоды. Калі будзе слухацца справа — невядома. Адзінае, што дазволілі, — прынесці перадачу.

Вярнуўшыся дахаты, дастала з паштовай скрынкі ўведамленне, у якім прапаноўвалі на другі дзень прыбыць у турму «по интересующему вас делу».

Каля варот турмы прад'явіла паштоўку і прайшла ў двор. У глыбіні двара былі яшчэ адны жалезныя вароты, за якімі я ўбачыла частку замка з масіўнымі белымі вежамі. Ахоўнік правёў мяне ў невялічкі цагляны домік побач з першымі варотамі. Увайшоўшы, пачула стракатанне пішучых машынак. Гэта была канцылярыя. Пажылы мужчына прапанаваў крэсла, адчыніў сейф і звярнуўся да мяне: «Калі ласка, вашыя ашчадныя кніжкі, грошы. Праверце, ці ўсё на месцы?»

Справа хутка месяц знаходзілася ў абласным судзе. Калі адбудзецца яе слуханне, ніхто не казаў. Як жа—вялікі сакрэт!



Мікола ХВЕДАРОВІЧ. Фота 70-х гадоў.

У доме пад нумарам 26 на Маскоўскай маім суседам быў прафесар доктар юрыдычных навук Андрэйчык (імя, на жаль, не памятаю). Аднойчы на лесвічнай пляцоўцы я сустрэлася з яго жонкай. Мы выйшлі з пад'езда, прыселі на лаўку, побач гулялі нашы дзеці. Слова за словам—я пра ўсё падрабязна расказала. Праз некалькі дзён, дзякуючы ёй, сустрэлася з Андрэйчыкам, і мне стала вядома, што суд адбудзецца 1 верасня (1939 года). Андрэйчык трошкі мяне падбадзёрыў, выказаў меркаванне, што справа наогул будзе закрыта, назваў сведак, сярод якіх будуць Кузьма Чорны, М. Лынькоў, І. Гурскі, А. Куляшоў, М. Модэль і Варашылаў (сакратар партарганізацыі Саюза пісьменнікаў). Андрэйчык параіў запрасіць адваката В. С. Карпіка. Я тады не ведала, што Карпік да 1938 года быў старшынёй спецкалегіі Вярхоўнага суда БССР, з'яўляўся начальнікам аддзела НКУС рэспублікі. Ён судзіў С. Баранавых, Ю. Таўбіна, У. Хадыку, З. Астапенку, Б. Мікуліча, А. Звонака, Я. Скрыгана, С. Шушкевіча і іншых сяброў Міколы. У канцы 1938 года «за перагібы ў рабоце» Карпік быў выключаны з партыі. А ў 1939-ым працаваў ужо ў калегіі адвакатаў. Карпік адразу даў згоду: Я ўнесла ў касу 200 рублёў, патрэбных для вядзення справы.

Незадоўга да арышту Мікола працаваў адказным сакратаром часопіса «Полымя рэвалюцыі», рэдактарам якога ў той час быў Міхась Ціханавіч Лынькоў. Адносіны паміж імі былі сяброўскія. За дзень да пачатку суда я зайшла да Лыньковых. Напэўна, Міхася Ціханавіча здзівіў мой нечаканы візіт. Ён правёў мяне ў свой кабінет, сеў за пісьмовы стол, прапанаваўшы крэсла насупраць. Некаторы час мы сядзелі моўчкі. Закурыў папяросу, за ёй другую. Адчувалася — усхваляваны. Не дакурыўшы, кінуў недапалак у папяльнічку, падняўся:

— Вы, Сара, трымайцеся, заўтра будзем вызваляць Міколу.

Я зразумела, што ён ужо атрымаў позву ў суд.

Трохі падбадзёраная, накіравалася дадому. Каля трамвайнага прыпынку ўбачыла А. Куляшова. Ён некуды спяшаўся, увесь час праходжваўся па пляцоўцы, узіраўся ў бок, адкуль павінен быў выехаць трамвай. Аркадзь жыў тады з намі ў адным доме на Маскоўскай, пра якую пазней напісаў у знакамітым вершы «Вуліца Маскоўская». Павітаўся са мной, мне падалося, трохі разгублена.

Мікола па справе праходзіў адзін, як тады казалі, «без групаўшчыны». Пазней я даведалася, што следчы Венікавецкі патрабаваў ад Міколы лжывых паказанняў на П. Броўку і М. Лынькова. Нягледзячы на катаванні і здзекі, Мікола трымаўся цвёрда, 12 сутак у знак пратэсту галадаў. І Венікавецкі адступіў.

Да дробязяў помню той дзень. Насустрач ішлі святочна апранутыя дзеці. Першага верасня ў трыццаць дзевятым, як і сёння, быў днём пачатку вучобы.

На плошчы Свабоды каля вежы з гадзіннікам было заўсёды шмат людзей. Адразу ўбачыла «чорны воран», які ўехаў у арку, спыніўся. Дзверцы машыны расчыніліся, з яе выскачылі два канваіры. За імі выйшаў Мікола. Ён адразу ўбачыў мяне ў натоўпе, рвануўся насустрач, але канваіры схапілі яго пад рукі і хуценька ўвялі ў будынак суда.

Падняўшыся па прыступках, я апынулася ў пакоі, які знаходзіўся побач з судовай залай. Ужо сабраліся сведкі, моўчкі чакалі... Некаторыя, кіўнушы мне галавой, павіталіся. Усе добра былі знаёмы з нашай сям'ёй, добра ведалі мяне, апроч, можа, намесніка рэдактара газеты «Літаратура і мастацтва» Варашылава.

Шырока расчыніліся дзверы, у залу ўвайшлі суддзі, услед за імі былі запрошаны сведкі. У пакоі я засталася адна. Прысела на лаўку каля дзвярэй, спадзеючыся што-небудзь пачуць.

І сапраўды, чуваць было добра...

Абвінавачванне было цяжкім: прыналежнасць да контррэвалюцыйнай нацыяналістычнай фашысцкай арганізацыі. Помніцца, як пракурор запытаўся ў сведкі М. Модэля, ці можа той пацвердзіць свае паказанні. Адказ быў наступны: так, ведаю, што Хведаровіч у трыццатым годзе, калі працаваў адказным сакратаром у «Бальшавіку Беларусі», быў звязаны з Шаранговічам, а таксама з Чаротам, Вольным, Галавачом, Жылуновічам, Звонакам, Александровічам.

Потым была зачытана характарыстыка, што напісала следчаму адна маладая паэтэса. Яна абвінавачвала падсуднага ў тым, што ён захапляўся «кулацкай» паэзіяй Сяргея Ясеніна, напісаў пад яго ўздзеяннем шэраг упадніцкіх твораў.

Сведка А. Куляшоў на пытанні суда адказаў: М. Хведаровіч дрэнна, на яго погляд, ці не са шкодніцкай мэтай, перакладаў вершы Пушкіна на беларускую мову. Пракурор не палічыў гэты аргумент за злачынства.

Настала чарга Кузьмы Чорнага. Былі прыведзены дакументы вочнай стаўкі. Аднак Чорны адмовіўся ад першапачатковых паказанняў, назваўшы іх фальсіфікацыяй следчага. Адзінае, з чым ён пагадзіўся, гэта былі словы падсуднага, які аднойчы сказаў яму: «Лічу, што высылаюць нявінных людзей».

І яшчэ два сведкі праходзілі па справе: Міхась Лынькоў і Ілья Гурскі. Першы характарызаваў падсуднага як сумленнага камуніста, чэснага чалавека. А «ясеніншчына»? Ды хіба гэта злачынства?!

Ілья Данілавіч Гурскі катэгарычна адмаўляў усё, што інкрымінавалася судом Міколу. «Для каго была рэвалюцыя? Для такіх, як сялянскі сын Хведаровіч. Толькі дзякуючы ёй, стаў ён паэтам. Прашу быць да яго справядлівым, трэба апраўдаць Хведаровіча».

Апошні са сведак Варашылаў заявіў, што падсудны арыштаваны ў выніку паклёпу кар'ерыстаў і правакатараў.

Прозвішча былога суддзі спецкалегіі Карпіка цяпер успамінаецца не ў станоўчай ацэнцы. На судзе, як я ўжо гаварыла, ён выступаў у якасці адваката. Аднак, як мы ўсе добра ведаем, абарона ў сталінскім судзе вялікай ролі не адыгрывала.

Два дні цягнуўся суд. Два дні да ганка пад'язджаў «чорны воран». Усё складвалася пакуль добра. Нават канваіры дазволілі мне ў час перапынку перакінуцца з Міколам некалькі словамі. Праўда, пачак папярос і бутэрброд перадаць яму адмовіліся: «Навошта? Вечарам будзе дома...» Сам Лынькоў падышоў да мяне: «Ідзі, Сара, дадому, рыхтуй стол! А Міколку мы хутка прывядзём».

Але ні ў той дзень, ні праз два і яшчэ вельмі няхутка змог Мікола пераступіць парог свайго дома. «Справу Хведаровіча - Чарнушэвіча Міколы Фёдаравіча перадаць на даследаванне» — такое было рашэнне суда.

І зноў «чорны воран» і глухая турэмная брама. Зноў прыёмная НКУС, доўгая жаночая чарга, бяссонныя ночы.

Мінулі тры месяцы. Даведалася, што следства завершана і справа ўжо ў Маскве. У гэты час Мікола знаходзіўся ў полацкай турме. Еду да яго.

У Полацку ўразіў змрочны будынак з доўгімі радамі закратаваных вокнаў. А побач старая, абшарпаная часам і вандаламі культурнай рэвалюцыі царква. Стала ў чаргу, каб перадаць у акенца перадачу. Раптам убачыла: да турмы набліжаецца вялізны натоўп людзей, які суправаджалі канваіры з сабакамі. Тут жа частку арыштаваных загналі ў турэмны двор, астатніх у царкву. Відаць, камеры ўжо былі перапоўнены. І раптам пачула з царквы малітву. Гэта была незвычайная малітва: кожная —на сваёй мове: беларускай, рускай, польскай, яўрэйскай, татарскай... Перад богам усе роўныя. Усё гэтае шматгалоссе злілося ў адзіны гул. Вось так пазналі перавагу сталінскага сацыялізму «ворагі народа» з вызваленай Заходняй Беларусі.

Чакаю адказу на сваю запіску, што паклала разам з прадуктамі. Адказу няма. З-за акенца чую: «Чаго тут тырчыш? Арыштанцік твой бунтуе, перадачу не прымае. Кажа: давай усю запіску. Карцара яму не мінаваць! Ты што там накрэмзала?»

А прыпісала я ўсяго: «Трымайся! Вер! Праўда пераможа!»

Праз некаторы час справа ўжо зноў у Мінску. Мікола звяртаецца да следчага з просьбай узяць паказанні ў Броўкі і Глебкі, якія добра ведалі яго, сябравалі. Але следчы Венікавецкі прымушае маладых Жаўрука і Ушакова падпісаць чарговую паклёпніцкую паперу.

І зноў справа ў Маскве, толькі «в особом совещании». А Міколу — у чарговы прытулак, на гэты раз у Барысаў.

У красавіку еду з перадачай туды. Доўга ля турмы не затрымалася. «Няма тут такога». — «Як няма?» — «У спісе не значыцца, ідзі да начальства».

Заставалася чакаць самага страшнага. Колькі вось гэтак жа знікала людзей: «у спісе не значыцца...»

Хвалюючыся, чакаю, пакуль начальнік турмы гартае адну за адной таўшчэзныя рэгістрацыйныя кнігі. Здаецца, знайшоў. Чытае: «Федорович — Чернушевич Николай Федорович осужден особым совещанием сроком на восемь лет». І потым дадае: «Выбыў этапам. Чакайце — напіша».

...І вось у мяне ў руках памятая паштоўка. Пазнаю акуратны дробны почырк. Першыя словы былі такія: «Як ярка свеціць сонца пасля буры!..» І пасля: «Знаходжуся на Кольскім паўвостраве непадалёк ад Манчагорска. Здабываюць тут нікель і валяць лес. Зіма ўжо ўступіла ў свае правы з маразамі і палярнымі начамі. Працую на лесапавале. Дыхаю свежым марозным паветрам. Хочацца верыць, што паўночная жорсткая зіма мяне загартуе. Любуюся незвычайным відовішчам — паўночным ззяннем». Далей прачытаць было немагчыма. Усё перакрэслена чорнымі чарніламі.

Хутка збіраю пасылку з цёплымі рэчамі і прадуктамі.

Праз колькі месяцаў атрымліваю адказ. Мікола дзякуе за пасылку, асабліва за сваю кнігу вершаў «Усім сэрцам», што выйшла незадоўга да яго арышту, і нашы з сынам фотакарткі. Тут жа папярэджвае, што доўгі час ад яго, магчыма, не будзе звестак: лагер збіраюцца этапіраваць.

Сорак першы год мне давялося сустрэць у дзіцячай інфекцыйнай бальніцы: захварэў на дыфтэрыт Арцік, цяжка дыхае, хрыпіць. Шанцаў на выратаванне амаль няма. Дзякуй вядомаму ў той час у Мінску інфекцыяністу Філіповічу Арцёму Мікітавічу — добраму знаёмаму Міколы. Толькі яго намаганнямі праз некалькі дзён наступіла паляпшэнне. Хвароба адступіла.

Прыйшла ў бальніцу мая сяброўка Ліпачка Іванова. Працягвае мне ў фортку адразу два лісты. Адзін складзены трохкутнікам, чамусьці без штэмпеля. Чытаю: «Знаходжуся ў сыктыўкарскай турме. Як толькі нас развязуць па месцах, адразу паведамлю». Другі ліст датаваны значна пазней. У ім Мікола піша, што пасля доўгага шляху яго адрас: Комі АССР, пасёлак Вожаель, УсцьвытЛаг». «Тут я зноў на лесапавале. Пасля цяжкай фізічнай працы на марозе вяртаемся вечарам ужо пры святле пражэктараў, праглынаю сваю пайку хлеба і ўкладваюся на нары, паклаўшы пад галаву ватоўку. Не паспяваеш ні аб чым падумаць: уміг засынаеш».

Незадоўга да пачатку вайны атрымала яшчэ адно пісьмо: «Поўнасцю ўключыўся і прывык да лагернага жыцця. Адно хвалюе — здароўе падводзіць. Знаходжуся ў санчасці, хворы на пелагру. Але гэта не так страшна. Лячуся чарамшой. Спадзяюся, што яе вітаміны дапамогуць».

Вайна абарвала надоўга нашу сувязь. І толькі ў жніўні сорак шостага мы сустрэліся далёка ад свайго дома. Узбекскі гарадок Каршы стаў для мяне і майго сына прытулкам у час эвакуацыі.

Крыху больш двух гадоў праляцела неўзаметку. Нарадзіўся другі сын—Саша.

І зноў арышт, і ўсё па тым жа пяцьдзесят восьмым артыкуле. Рашэннем «особого совещания» Мікола высланы на пасяленне ў Краснаярскі край. Збіраю свой няхітры скарб і разам з сынамі еду за ім у далёкі Енісейск.

У родную Беларусь вярнуліся ў канцы пяцьдзесят пятага.

Шмат падзей і людзей напаткала нас у сібірскім краі, а пасля дома. Былі і радасці, і гора—усё, чым жыве чалавек. Але мне заўсёды помніцца першыя радкі з Міколавага ліста: «Ярка свеціць сонца пасля буры!»

## Абмеркавалі праект

**Адбыўся II пленум праўлення Музычнага таварыства БССР. Нечаканы быў яго пачатак: перад прысутнымі выступіў з разнастайнай канцэртнай праграмай сімфанічны аркестр Гомельскага абласнога аддзялення МТ (дырыжор В. Краўцоў). Першы ў рэспубліцы калектыў такога роду...**

**Затым старшыня праўлення МТ БССР М. Дрынеўскі зрабіў справаздачу за два гады працы таварыства. Удзельнікі спрэчак абмяркоўвалі як сам даклад, так і праект асноўных напрамкаў дзейнасці МТ БССР на 1990—92 гг., загадзя распаўсюджаны сярод членаў праўлення. З улікам прапаноў і паправак гэты праграмны дакумент быў прыняты пленумам.**

**Пленумаўская дыскусія, што доўжылася некалькі гадзін, дала падставу для гаворкі на лімаўскіх старонках—яе мы маем намер апублікаваць ужо ў наступным годзе.**

**НАШ КАР.**

## КУПАЛАЎЦЫ— СЯРОД ПЕРАМОЖЦАЎ

**Падведзены вынікі Трэцяга фестывалю драматычнага мастацтва Венгерскай Народнай Рэспублікі ў Савецкім Саюзе, які праводзілі Міністэрства культуры СССР і Саюз тэатральных дзеячаў СССР. Дыпломам фестывалю ўзнагароджаны Беларускі дзяржаўны акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы за спектакль па драме Акаша Кертаса «Яны любілі яго». Ганаровымі дыпломамі ўзнагароджаны таксама народная артыстка БССР Зінаіда Браварская — рэжысёр спектакля, заслужаны дзеяч мастацтваў БССР В. Раеўскі — мастацкі кіраўнік пастаноўкі, заслужаная артыстка БССР Тамара Ніколаева — за выкананне ролі Евы ў гэтым спектаклі.**

**Гэта ўжо другі поспех купалаўцаў на фестывалях венгерскай драматургіі — у 1977 годзе сярод пераможцаў быў спектакль па п'есе І. Эркеня «Гульня з кошкай» (рэжысёр Б. Эрын).**

**В. НІКІФАРОВІЧ.**

### АБ'ЯВЫ

## ПРАГРАМА І ЎМОВЫ

### закрытага конкурсу на лепшы эскізны праект помніка Францыску Скарыне ў г. Мінску

**Міністэрства культуры БССР, Мінскі гарвыканкам, Саюз мастакоў БССР, Саюз архітэктараў БССР, Беларускі фонд культуры праводзяць закрыты конкурс на распрацоўку эскізнага праекта помніка Францыску Скарыне ў г. Мінску. Конкурс праводзіцца з 11 снежня 1989 г. па 20 лютага 1990 г. Удзельнікамі конкурсу з'яўляюцца пераможцы першага тура.**

**У конкурсе могуць прымаць удзел сустрэчныя прапановы, калі яны адпавядаюць праграме і ўмовам. Удзельнікам конкурсу прадастаўлена права свабоднага выбару месца прывязкі помніка ў горадабудаўнічым ансамблі з двух зададзеных.**

**На конкурс прадстаўляюцца наступныя матэрыялы:**

**1. Макет помніка ў маштабе 1:20.**

**2. Мадэль скульптурнай кампазіцыі да 120 м (у гіпсе).**

**3. План помніка ў маштабе 1:200.**

**4. Фотамантаж (на падрамніку 100×100 см у чорна-белай графіцы, з асноўных пунктаў успрымання помніка ў гарадскім асяроддзі).**

**5. Тлумачальная запіска.**

**Заўвага: фармоўка скульптурнай часткі заказных праектаў праводзіцца Мінскім мастацка-вытворчым камбінатам. Праектныя матэрыялы, якія не адпавядаюць праграме і ўмовам конкурсу, разглядацца не будуць.**

**З мэтай шырокага абмеркавання спецыялістамі і грамадскасцю конкурсных матэрыялаў, мяркуецца арганізаваць іх выстаўку.**

**Лепшаму праекту помніка прысуджаецца прэмія ў суме 2000 рублёў, яго аўтарам прадастаўляецца права на рэалізацыю праектнай прапановы.**

**Калі сустрэчнаму праекту журы прысудзіць прэмію, аўтарам гэтага праекта будзе выплачаны той самы аўтарскі ганарар, што і аўтарам, якія ўдзельнічаюць у закрытым конкурсе па дагаворных абавязацельствах.**

**Праекты, пададзеныя на закрыты конкурс, паступаюць ва ўласнасць Міністэрства культуры БССР.**

# Жывём з надзеяй

**З рэспубліканскай навукова-практычнай канферэнцыі «Беларускі нацыянальны касцюм»**

У канферэнцыі прымалі ўдзел вучоныя і практыкі — спецыялісты ў галіне сцэнічнага касцюма з Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР, Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута, Рэспубліканскага навукова-метадычнага цэнтра работнікаў культуры, работнікі краязнаўчых музеяў. Удзельнікі канферэнцыі заслухалі даклады і паведамленні, пазнаёміліся з мадэлямі адзення, створанага навукова-даследчай мастацкай эксперыментальнай лабараторыяй, наведалі музей старажытнабеларускай культуры АН БССР. Абмен думкамі быў неабыякавы, часам занадта эмацыянальным, хоць усе ўдзельнікі канферэнцыі пагаджаліся: работу па зберажэнні і вывучэнні нацыянальнага касцюма трэба неадкладна і рашуча актывізаваць.

Мэтай канферэнцыі было высвятленне стану, збору і захавання нацыянальнага адзення ў Беларусі, аналіз эстэтыкі сцэнічнага касцюма, праблем яе стылізацыі, пытанні падрыхтоўкі да рэспубліканскай выстаўкі народнага касцюма. Высветлілася, што ўся работа па захаванні беларускага нацыянальнага касцюма знаходзіцца ў глыбокім заняпадзе. Праблемамі яго вывучэння займаецца вялікая колькасць арганізацый, але нездарма кажуць, што ў сямі нянек дзіця без носа. Спецыялісты гэтай галіны працуюць у Інстытуце мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР, БДТМІ, Мінскім інстытуце культуры, навукова-даследчай мастацкай эксперыментальнай лабараторыі, Рэспубліканскім навукова-метадычным цэнтры работнікаў культуры. Акрамя гэтага, можна дадаць сюды Міністэрства культуры рэспублікі і Фонд культуры. Кожная з гэтых арганізацый вывучае і збірае матэрыялы пасвойму, яе фонды — яе багацце. Пра аб'яднанне намаганняў і цэнтралізацыю усёй работы ў адных руках гаворыцца, але амаль нічога не зроблена. Паспрабуйце адшукаць матэрыялы па той ці іншай тэматыцы, і вы будзеце блукаць па ўсіх пералічаных тут адрасах.

**— Дзесяць гадоў існуе наша навукова-даследчая эксперыментальная лабараторыя, — расказвае загадчык аддзела мастацтвазнаўства лабараторыі Г. Лабачэўская. — У нашай картатэцы 13 тысяч негатываў і 10 тысяч слайдаў — велізарнае багацце. Разрозненае вывучэнне нацыянальнага сцэнічнага касцюма прыносіць невысокі эфект.**

**Мы сёння ўсе рэалісты, і цвярозымі вачыма глядзім на тыя працэсы, якія адбываюцца ў культурным жыцці. Зразумела, што зберагчы народны касцюм так, як ён існаваў гадоў дваццаць назад, немагчыма. Але народнае адзенне павінна жыць у нашых самадзейных калектывах, у нашых сённяшніх культурных традыцыях. На жаль, сцэнічны народны касцюм радуе вока часцей за ўсё ў часы свят і ўрачыстых канцэртаў. Асабліва, калі гэтыя канцэрты адрасаваны вышэйшаму «эшалону ўлады». А калі адкінуць фанфарныя канцэрты і пампезныя датныя агляды? Чаму тады наш народны касцюм існуе ў глыбокім падполлі і знайсці яго няпроста? Мы быццам забываем, што сваё народнае адзенне, якое пакуль што не адышло ў нябыт, нам давядзецца дэманстраваць на Сусветным фестывалі фальклору, які адбудзецца ў нас у 1992 годзе. Летась такі фестываль прайшоў у Маскве. у наступным годзе ён пройдзе на Украіне. Што мы пакажам народам свету? Можна сваім стракатым нацыянальным убраннем толькі пацешыць гледача, — як часта ў нас бывае, можна праз касцюм паспрабаваць раскрыць душу народа, — як павінна быць. Што ў нас атрымаецца: першае, другое?**

З вывучэннем народнага касцюма сабралася зашмат праблем. На думку навуковага супрацоўніка ІМЭФ АН БССР Ю. Піскуна, касцюмы не варта падзяляць на касцюмы калектываў фальклорна аўтэнтычных і мастацкай самадзейнасці. Усе калектывы трэба апранаць у тыя ўборы, якія максімальна прыбліжаны да фальклорных. Павінен быць дакладна распрацаваны арнамент кожнага раёна, каб адразу была бачна адметнасць аднаго калектыву ад другога.

Загадчык навукова-даследчай лабараторыі беларускага фальклору і дыялекталогіі пры БДУ імя У. І. Леніна В. Ліцвінка падкрэсліў, што ўся работа па вывучэнні нацыянальнага адзення павінна быць сканцэнтравана ў адных руках. А пакуль што нам неабходна падрыхтаваць спецыялістаў у гэтай галіне, паспяшацца выдаць, як гэта даўно зроблена ва ўсіх цывілізаваных народаў, энцыклапедыю беларускага адзення, стварыць лабараторыю народнага танца.

Спецыялістаў па нацыянальным адзенні ў нас быццам хапае, праблем з кансультантамі не павінна быць. Але выходзяць на сцэну калектывы, і людзі кампетэнтныя проста дзівяцца: адкуль такія адзежкі яўна не з беларускім арнаментам? Некалькі гадоў назад паспрабавалі паставіць заслону такім новаспечаным пад аля-беларускае касцюмам. Тады пры РНМЦ работнікаў культуры стварылі мастацкі савет па касцюмах. Яго задача — абавязковае зацвярджэнне эскізаў народнага адзення, якое прапануе мастак. На жаль, савет існуе, а вось асноўную сваю функцыю не выконвае. Не таму, што не хоча, а таму, што з ім амаль ніхто не раіцца. У жыцці ўсё адбываецца інакш: нейкі мастак прыкінуў свой эскіз, стракатасць якога спадабалася калектыву, — вось і наштампавалі аля-народных сцэнічных касцюмаў.

**— У камбінаце Саюза тэатральных дзеячаў БССР і тэатра оперы і балета, якія шыюць нацыянальнае адзенне для сцэнічных калектываў, няма мастакоў, дасведчаных у спецыфіцы рэгіянальных беларускіх строяў, — гаварыў загадчык аддзела фальклору РНМЦ работнікаў культуры М. Козянка. — Таму адтуль часцяком выходзіць не нацыянальны касцюм, а нешта звышмоднае. але... не наша.**

**Здавалася, праблему можна вырашыць прасцей: не выдаткоўваць грошы на касцюмы, эскізы якіх не зацверджаны. Але ж грошы выдзяляюць самі калектывы.**

**Старшы метадыст аддзела выяўленчага мастацтва РНМЦ работнікаў культуры В. Ціханові адзначыла:**

**— Па палажэнні з саветам па касцюмах усе павінны раіцца, але гэтага ніхто не робіць. Кожны калектыў заказвае сабе такія касцюмы, якія захоча. Спрабавалі гаварыць работнікам камбіната: «Не прымайце да работы незацверджаныя эскізы». У іх свая пазіцыя: «Ваш мастацкі савет нам не ўказчык, калектыў заключае з намі дагавор — наша задача яго выканаць...»**

У такой сітуацыі працаваць мастацкаму савету вельмі няпроста: «свае» яго не слухаюць, «чужым» ён не ўказчык. Тым не менш, ён павінен дзейнічаць, павінен стаць законным аўтарытэтам як для калектываў, так і для мастацкіх камбінатаў, якія выпускаюць адзенне. Таму на канферэнцыі вырашылі аформіць калектыўнае пагадненне аб міжведамасным мастацкім савеце. Яго падпішуць кіраўнікі міністэрстваў культуры і мясцовай прамысловасці БССР, Фонду культуры. Такое пагадненне будзе мець юрыдычную сілу і для тых арганізацый, якія сёння і слухаць не хочуць аб правах і абавязках пакінутага без увагі мастацкага савета.

У камбінаце Саюза тэатральных дзеячаў БССР чарга на шыццё сцэнічнага народнага касцюма для фальклорных калектываў вагаецца ад 3 да 5 гадоў. Так і б'юцца фальклорныя калектывы ў пошуках добрага дзядзькі, які ўратуе. Можа, камбінат тэатра оперы і балета? Але ён павінен забяспечыць сцэнічным адзеннем у першую чаргу сваіх акцёраў, і толькі пасля гэтага літасціва зверне ўвагу на іншыя калектывы.

— Паўстае шэраг надзённых праблем, — падкрэсліў у сваім выступленні кандыдат мастацтвазнаўства М. Раманюк. — Першае і галоўнае пытанне — дзе народным калектывам заказваць сцэнічнае адзенне? Некалі Беларускі фонд культуры абяцаў узяць пад сваё крыло дзве швейныя фабрыкі, але час прайшоў, а ўсё засталося па-ранейшаму. Больш таго, Барысаўскі камбінат Мастацкага фонду БССР цяпер наогул не шые сцэнічнае адзенне: яму далі высокі план па масавым выпуску тавараў шырокага попыту.

Праўда, выйсце быццам знаходзіцца: свае паслугі прапануе кааператыў, які арганізаваўся пры Барысаўскім камбінаце.

— Калі дзяржаўнае прадпрыемства брала за адзін касцюм па 310—330 рублёў, то, па нашых падліках, мы яго зможам прапанаваць за 240—260 рублёў, — падкрэсліў на сустрэчы старшыня кааператыву І. Паныч. — У нас ёсць свае праблемы, нам не хапае, скажам, майстрыц ручной вышыўкі, але, думаю, наш кааператыў да Сусветнага фестывалю фальклору можа пашыць значную колькасць неабходных сцэнічных касцюмаў.

Па-мойму, слушную заўвагу выказала супрацоўніца РНМЦ работнікаў культуры М. Жабінская. Кааператыў, на яе думку, разам з камбінатам СТД БССР, можа задаволіць попыт калектываў мастацкай самадзейнасці. Але на паток такую далікатную справу пускаць нельга: пажадана, каб для фальклорных калектываў касцюмы выраблялі нашы народныя ўмельцы.

На навукова-практычнай канферэнцыі вырашылі правесці ў 1992 годзе рэспубліканскую выстаўку нацыянальнага касцюма, перад гэтым адбудуцца абласныя выстаўкі народных касцюмаў. Удзельнікі канферэнцыі звярнуліся да Міністэрства культуры з прапановай стварыць пры БДТМІ навукова-праблемную лабараторыю «Гісторыя і развіццё традыцый беларускага нацыянальнага касцюма і арнаменту».

**Вячаслаў ЛАПЦІК.**




**З 25 ПА 31 СНЕЖНЯ**

**25 снежня. 19.50**

**«І ПЕСНЯ ВОДГУЛЛЕ СПАТКАЕ...»**

Літаратурны музей Якуба Коласа.

**26 снежня. 19.35**

**«РОДНАЕ СЛОВА»**

Першая старонка часопіса прысвечана праблеме двухмоўя на Беларусі. Наступная — раскажа пра падпіску на факсімільнае выданне першай беларускай легальнай газеты «Наша Ніва», якое выходзіць у выдавецтве «Навука і тэхніка».

Вядзе перадачу кандыдат філалагічных навук, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР Я. Саламевіч.

**26 снежня. 20.25**

Прэм'ера дакументальнага фільма БТ

**«ДАРОГА НА ЕВІНА»**

Стужка расказвае аб пошуках новых эфектыўных форм землекарыстання, развіцця падрадных і арэндных адносін на вёсцы.

Аўтар сцэнарыя В. Драздоў, рэжысёр У. Арлоў, аператар У. Васіноўскі.

**26 снежня. 22.10**

**«ЛІРА»**

Мастацка-публіцыстычная праграма.

**27 снежня. 21.45**

**В. ЛІПАТАЎ. «ВЫБАРЫ 1950 ГОДА»**

Спектакль Горкаўскага акадэмічнага тэатра драмы імя М. Горкага.

Рэжысёр-пастаноўшчык Ю. Лізенгевіч.

**29 снежня. 19.55**

**«НА ПРЫНЁМАНСКІХ ПРАСТОРАХ»**

Тэлечасопіс складаецца з наступных сюжэтаў: на радзіме Мацея Бурачка — да 150-годдзя з дня нараджэння Ф. Багушэвіча; татары на Беларусі — пра грамадска-культурнае таварыства «Кітаб»; падарожжа праз гады — ветракі на Гродзеншчыне.

**29 снежня. 20.25**

**ГАВОРЫМ ПА-БЕЛАРУСКУ**

Тэма чарговага, восьмага выпуску — словы і словазлучэнні, звязаныя з часам, з гадзінамі. Таксама прапануецца засвоіць формы прыналежных прыметнікаў, утвораных ад імёнаў.

У перадачы прыме ўдзел сям'я Трыгубовічаў з Мінска.

**30 снежня. 18.00**

**«ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ»**

Праграма прысвечана дзейнасці Таварыства беларускай мовы. Бяруць удзел Н. Гілевіч, А. Грыцкевіч, У. Паўлаў, П. Садоўскі, Я. Цумараў. Вершы беларускіх паэтаў аб роднай мове чытае артыст А. Лабуш.

**31 снежня. 10.20**

**МАЛАДОСЦЬ МАЯ НЕЗАБЫЎНАЯ**

Народная артыстка БССР Зінаіда Браварская гаворыць пра сваё асабістае жыццё, успамінае сваіх настаўнікаў М. Тарханава і Я. Міровіча.

«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР. Минск. На белорусском языке.

«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

Выходзіць раз на тыдзень, па пятніцах.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.

Індэкс 63856 П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
АТ 07855 М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.
ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай рэдакцыі — 33-24-61, намесніка галоўнага рэдактара — 33-25-25, адказнага сакратара — 33-19-85, аддзела публіцыстыкі і нарыса — 33-19-65, аддзела пісьмаў і грамадскай думкі — 33-19-65, аддзела крытыкі і бібліяграфіі — 33-22-04, аддзела прозы і паэзіі — 33-22-04, аддзела тэатра, кіно і тэлебачання — 33-21-53, аддзела музыкі — 33-21-53, аддзела выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў — 33-24-62, аддзела народнай творчасці і культасветработы — 33-24-62, аддзела інфармацыі — 33-24-62, аддзела мастацкага афармлення і фотаілюстрацый — 33-44-04, 33-24-62, карэктарскай — 32-20-64, бухгалтэрыі — 23-73-37.

Пры перадруку просьба спасылацца на «ЛіМ». Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.